

# БЕЛАРУСКІ РЭЗЫСТАНС

ЧАСОПІС НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫ

**№ 1(15)/2014**

Заснаваны ў 2004 г.
у Менску.

**Галоўны рэдактар:**
Сяргей Ёрш.
**Намесьнік галоўнага рэдактара:**
Андрэй Барткевіч.

Пры перадруку спасылка абавязковая.



**ЗЬМЕСТ:**

*Сяргей Ёрш*

# АЛЕГ СТАХОЎСКІ Й ЯГО РОЛЯ Ў ЛІКВІДАЦЫІ КАНСЬПІРАЦЫЙНАГА "САЮЗУ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ" У 1947 ГОДЗЕ

У барацьбе савецкіх спэцыяльных службаў супраць беларускага нацыянальнага падпольля й партызанскага руху і ў 1920-я, і ў 1940-я важную ролю адыграла агентура. *ГПУ/НКВД/МГБ* альбо вербавала ўдзельнікаў Супраціву, іх сваякоў, альбо засылала ў арганізацыі, атрады сваіх супрацоўнікаў пад распрацаванымі легендамі. З дапамогай гэтых людзей устанаўліваліся чальцы кансьпірацыі, іх кантакты, зьнішчаліся альбо захопліваліся камандзіры атрадаў, выводзіліся карныя аддзелы на лясныя лягеры і сховішчы, арыштоўвалася сетка партызанскіх сувязных. Падобных фактаў вядома дастаткова шмат, яны прысутнічаюць у навуковай і навукова-папулярнай літаратуры, аднак адмысловага дасьледаваньня па тэме няма дагэтуль.



Адным з самых вядомых агентаў савецкіх спэцслужбаў зьяўляецца **Алег Стахоўскі**. Ён нарадзіўся ў 1922 годзе ў сям'і праваслаўнага сьвятара Аляксандра Стахоўскага. Алег вучыўся ў польскай гімназіі, пасьля ў савецкай школе ў Дзісьне, але навучаньне перарвала вайна. Зьвесткі пра яго жыцьцё падчас нямецкай акупацыі супярэчлівыя: ён сьцьвярджаў, што быў агентам савецкіх спэцслужбаў, але ёсьць сьведчаньне, што службы былі іншыя — нямецкія...

Паводле сьведчаньня Алега Стахоўскага, яшчэ да вайны "лёс зьвёў яго з чэкістамі".[1] Найхутчэй ён быў завербаваны як інфарматар і мусіў сачыць за сваімі сябрамі ды знаёмымі. Тады ж стаў інфарматарам і зямляк Стахоўскага Міхась Зуй, які пасьля сьцьвярджаў, што нічога кепскага нікому не зрабіў.[2] Калі пачалася

вайна, чэкісты, нібыта, загадалі Алегу Стахоўскаму заставацца на акупаванай тэрыторыі, каб паспрабаваць укараніцца ў акупацыйныя органы, у "фашысцкую шпіёнскую школу". Яны меркавалі, што бацька-сьвятар у гэтай справе толькі на карысьць — будзе больш даверу. Праінструктавалі, далі пароль, распавялі, што рабіць у выпадку, калі яго скінуць з дэсантам у савецкі тыл.[3] Слаба верыцца, каб чэкісты ў паніцы першых дзён вайны давалі такое складанае заданьне 19-гадоваму хлопцу. Найхутчэй яго проста пакінулі, як удзельніка агентурнай сеткі, і загадалі чакаць сувязных. Усё астатняе Стахоўскі проста прыдумаў пасьля вайны, каб "упрыгожыць" сваю гісторыю.

Падчас нямецкай акупацыі Алег Стахоўскі працаваў касірам у Мікалаеўскай вясковай управе, сакратаром санітарнага аддзела раённай управы ў Дзісьне, загадчыкам сталоўкі Беларускай Народнай Самапомачы ў Глыбокім. Ён называў "вялікай удачай" тое, што яму ўдалося пазнаёміцца і "зблізіцца" з многімі мясцовымі "беларускімі нацыяналістамі" — меркаваў, што гэта дапаможа ў выкананьні "заданьня". У пачатку лета 1944-га патрапіў у афіцэрскую школу Беларускай Краёвай Абароны ў Менску, разам з ёй адступіў з Беларусі. Стахоўскі ня згадвае, што да яго за гады нямецкай акупацыі прыходзілі сувязныя ад спэцгрупаў дзяржбясьпекі, не дапамагаў ён і савецкім партызанам. Атрымліваецца, што ён проста стараўся выжыць. Ёсьць яшчэ згадка пра тое, што Алег Стахоўскі служыў у СД. Яе ў сваёй кнізе пра СБМ прыводзіць Ціна Клыкоўская са спасылкай на ўдзельніка маладзёжнага падполля Льва Бялевіча.[4]

У Кёнігсбергу нейкі беларускі нацыяналіст завербаваў Алега Стахоўскага ў школу нямецкай вайсковай разьведкі ў Дальвіцы. Падразьдзяленьне, якое складалася амаль выключна зь беларусаў, вядомае як "Спэцыяльны беларускі батальён "Дальвіц". Там апынулася нямала знаёмых і землякоў Стахоўскага. Паводле нямецкіх плянаў, яны праходзілі спэцыяльную падрыхтоўку, каб пасьля дэсантаваньня ў савецкім тыле арганізоўваць дывэрсіі на камунікацыях, зьдзяйсьняць тэракты, праводзіць антысавецкую прапаганду. Беларускае кіраўніцтва спадзявалася падрыхтаваць кіраўнічыя кадры для беларускага антысавецкага партызанскага руху, які плянавалася разгарнуць у БССР.

Стахоўскі зарэкамендаваў сябе з найлепшага боку. Восеньню

1944-га ён стаў намесьнікам камандзіра Паўночнай групы “Дальвіца”, а ў канцы году атрымаў рангу лейтэнанта. Адпаведны загад 13 студзеня 1945 г. падпісаў начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў Беларускай Цэнтральнай Рады Канстанцін Езавітаў:

*“...Ранга лейтэнанта [надаецца]:*
*...7. Дружыноваму С Т А Х О Ў С К А М У Алегу, народж. 1922 г., абсальвэнту камандзірскага курсу Спэцыяльнага Беларускага Батальёну “Дальвіц”, са старшынством ад 10-га студзеня 1945 г.”.*[5]

У склад дэсантаў “Дальвіца”, якія паляцелі ў 1944-м у Беларусь, Стахоўскі не патрапіў. У пачатку 1945 году нямецкае камандаваньне вырашыла выкарыстаць беларускіх камандасаў для правядзеньня дывэрсій на тэрыторыі Польшчы. Беларускае кіраўніцтва супрацівілася, паколькі па-ранейшаму хацела перакінуць батальён у Беларусь. У выніку, немцы яго раззброілі. Аднак невялікая група камандасаў (больш за 10 чалавек) пагадзілася на прапанову нямецкай франтавой выведкі. У складзе групы быў і лейтэнант Алег Стахоўскі. Пасьля падрыхтоўкі, яго і яшчэ дваіх чалавек скінулі з мэтай падрыву моста каля гораду Казімеж.

Паводле версіі Стахоўскага, ён адразу ж пасьля прызямленьня здаўся савецкім вайскоўцам і здаў ім сваіх падначаленых. У контрразьведцы 1-га Беларускага фронту ён распавёў пра заданьне сваёй і іншых груп, даў арыентыроўкі на дэсантнікаў, распавёў усё, што ведаў пра нямецкую школу выведкі, пра курсантаў і выкладчыкаў. Савецкія контрразьведчыкі загадалі Стахоўскаму вярнуцца праз лінію фронту, каб здабыць новыя дадзеныя пра дывэрсантаў, закінутых у савецкі тыл, ды захапіць жывым немца-камандзіра адзьдзяленьня выведкі. “Сьмерш” імітаваў дывэрсіі на вайсковых аб’ектах, якія мусіла выканаць група Стахоўскага — усё, акрамя падрыву моста. Фронт ён перайшоў у горадзе Ольдэнбург, немцам сказаў, што астатнія дэсантнікі загінулі. Пасля праверкі Алег Стахоўскі быў узнагароджаны *“ад імя рэйхсфюрэра... жалезным крыжам II ступені”*.[6]

Стахоўскі заставаўся ў гэтым падразьдзяленьні нямецкай вайсковай выведкі амаль да капітуляцыі Нямеччыны. Вясной 1945-га яго і іншых дывэрсантаў немцы пераапранулі і з фальшывымі дакумэнтамі адправілі ў лягер савецкіх ваеннапалонных, сказалі, што

“прыйдзе час — мы цябе адшукаем”. Алег Стахоўскі, які ўдзельнічаў у паленьні архіваў, захаваў частку картатэкі на агентаў, якую і перадаў савецкай контрразьведцы. 10 дзён даваў справаздачу, дапамагаў “Сьмершу” шукаць у канцлягеры шпіёнаў.

Паводле публікацыі В. Лукашэнкі, “на гэтым закончылася незвычайная частка жыцьця Алега Аляксандравіча” і ён “вярнуўся да мірнай працы”. Але гэта зусім ня так. У першыя пасьляваенныя гады Алег Стахоўскі выкарыстоўвася МДБ БССР як *“агент-розыскник”*. Ён ведаў у твар многіх салдат і афіцэраў “Дальвіца”, а яны пасьля капітуляцыі Нямеччыны разыйшліся па ўсёй Эўропе, нямала іх вярнулася ў Беларусь. Такія, як Стахоўскі, нярэдка “працавалі” на вакзалах, рынках, у іншых ажыўленых месцах.

Найбольш масавае затрыманьне на тэрыторыі БССР былых навучэнцаў Дальвіцкай разьведвальна-дывэрсійнай школы адбылося восеньню 1945 году. “Сьмерш” выявіў былых камандасаў у 143-м гвардзейскім стралковым палку 48-й гвардзейскай стралковай дывізіі. Арышты працягваліся да кастрычніка, пад варту былі ўзятыя 22 чалавекі. Большасьць зь іх служылі чырвонаармейцамі ў згаданым 143-м палку. У сакавіку 1946-га Ваенны трыбунал Баранавіцкай вайсковай акругі ў Бабруйску асудзіў усіх затрыманых на розныя тэрміны зьняволеньня.[7] Ці паўдзельнічаў у гэтай справе Стахоўскі ці нехта іншы з перавербаваных беларускіх дывэрсантаў, невядома.

Алегам Стахоўскім былі напісаныя шматлікія сьведчаньні/даносы пра ўсіх былых знаёмых, з кім ён сутыкаўся на жыцьцёвым шляху. Гэтыя паперы захаваліся ў архіўных справах. Напрыклад, у агентурна-вышуковай справе лейтэнанта Міколы Рулінскага ў Асобым архіве Літвы (ф. К-1, в. 45, спр. 236). “Стомлены” ад напісаньня стандартных папер, Стахоўскі скажае прозьвішча Рулінскага, падае няправільную дату нараджэньня, піша, што швадрон Барыса Рагулі быў “карным атрадам”.

У 1946 годзе Алег Стахоўскі атрымлівае ад *МГБ* БССР заданьне па распрацоўцы беларускага маладзёжнага падпольля ў Паставах. Фотакопіі сьведчаньня А. Стахоўскага прадастаўлены аўтару рэжысёрам-дакумэнталістам Антонам Цялежнікавым. Пры гэтым ён мусіў уступіць у кантакт з патаемнікамі пад сваім прозьвішчам. Гэтая “гульня ў адкрытую” апраўданая хіба толькі ў тым выпадку,



214

Рогинский Николай ур. Барановичской обл. 1921 года рожд. по национальности белорус. гражданская относительность учитель. В период немецкой оккупации Белоруссии с 1943 года поступил на службу в карательный отряд к-ра Рогули Бориса под наз. „Рогулевцы" который в то время дислоцировался в гор. Новогрудке Барановичской обл. и непосредственно подчинялся только полиции и С.Д.
В числе участников отряда „Рогулевцы" Рогинский Н. неоднократно участвовал в карательных экспедициях против партизанского движения /Кореличский р-н на реке Березина. Любчанский р-н / селение Лесное./ В отряде Рогинский Н. имел звание фельдфебеля и занимал должность старшины роты данного отряда. В 1944 году вовремя отступления немцев с территории БССР, в связи с наступлением Красной Армии. Рогинский Н. в числе своих сообщников по совместной службе в отряде бежал в Германию в Восточную Пруссию, где поступил в начале июля 1944 года в „Дальвицкую" развед-школу

калі *МГБ* спадзяваўся праз моладзь выйсьці на падпольле “дарослае”, магчыма, нават пакінутае нямецкімі спэцслужбамі. І тады “нямецкі дывэрсант” Стахоўскі меў бы добрыя шанцы, каб здабыць

Где сразу был назначен Старшим 215 14
школы. В сентябре 1944 Рулинскому Н.
было присвоено звание лейтенанта Нач.
штаба „Зондеркомандо" Подполковником
Ярольдом, за успешную работу находясь
на службе в немецкой Контр-Разведки
„Dinstele" Feldpost № 58779. Stad Wilno
Отделение Полевой Почта № 58779. гор. Вильно

После получения звания лейтенанта
Рулинский Н. был ком. взвода в „Дальвицкой"
Развед школе.
В декабре 1944 года Рулинский Н, был
награжден бронзовой медалью, Начальником
„Фронтауфклерунгкомандо" 204 Подполк.
Ярольдом. После чего был назначен
зам. ком. южной групы „Дальвицкой"
Развед. школы, в этой должности он
работал до 15 марта 1945 года.
После этого числа я выбыл из школы,
а Рулинский Н. остался при школе.
О дальнейшей судьбе Рулинского Н. мне
ничего не известно.
Рулинский Н. как заместитель Начальника
южной групы знает почти всех агентов
обучавшихся в Дальвицкой Раз-вед школе
уроженцев Барановичской области,
так как южная група состояла
исключительно из уроженцев
Барановичской обл.
/-/ Стаховский Олег.

***Фотакопіі сьведчаньня А. Стахоўскага прадастаўлены аўтару рэжысёрам-дакумэнталістам Антонам Цялежнікавым. Захоўваецца ў справе Міколы Рулінскага ў Асобым архіве Летувы.***

давер у антысаветчыкаў. Але за моладзю не было старэйшых, і Стахоўскі гэта хутка высьветліў.

Забягаючы наперад, адзначым, што паводле прысуду ўдзельнікам канспірацыйнай арганізацыі "Саюз Беларускіх Патрыётаў" ад чэрвеня 1947 году, сябра СБП Алег Табола меў заданьне ад кіраўніцтва зьвязацца "з беларускім нацыяналістам ЗУЙ Міхаілам, які знаходзіўся на нелегальным становішчы". Табола "некалькі разоў праз сваякоў спрабаваў устанавіць сувязь", але няўдала, "з прычын, якія ад яго не залежалі".[8]

Аднак сам Табола ў сваіх успамінах абвяргае гэта. Ён сьведчыць, што на вочнай стаўцы завучаныя словы пра Зуя сказаў кіраўнік арганізацыі Васіль Мядзелец: "Яму было даручана зьвязацца з Зуем. Зуй за немцамі быў начальнікам Шаркаўскага раёна. Ён адступіў разам зь імі. Яго маглі закінуць у Беларусь і празь яго СБП павінен быў наладзіць сувязь з замежжам". Я аслупянеў, чуючы такое ад Мядзельца. Пройдзе час, працягнуцца допыты, катаваньні, і я пацьверджу словы Мядзельца. Пасьведчу тое, чаго ніколі не рабіў…".[9]

Пра ўдзел Міхася Зуя ў антысавецкай партызанцы на Віцебшчыне звестак няма, у 1945-1948 гадах ён знаходзіўся ў Польшчы. МДБ, відавочна, прыдумала яго знаходжаньне на нелегальным становішчы ў БССР, каб абвінаваціць моладзь у сувязях з заходнімі спэцслужбамі. Адзначым, што Стахоўскі і Зуй служылі ў "Дальвіцы", былі знаёмыя.

У кнізе "Гарт" прыведзена нямала сьведчаньняў былых падпольнікаў пра іх сустрэчы з Алегам Стахоўскім. На падпольле ён выйшаў праз пастаўскага сябра СБП Валянціна Лагунёнка, якога ведаў з даваенных часоў. На сустрэчы Стахоўскі прыходзіў у форме афіцэра *МГБ* (лейтэнанта ці старшага лейтэнанта). Наўрад ці ён сапраўды атрымаў такую рангу ў дзяржбясьпецы, найхутчэй гэта быў "камуфляж".

Вось што успамінаў адзін з лідараў СБП Васіль Мядзелец:

*"Калі скончылася вайна,* [Стахоўскі] *неспадзявана апынуўся... ў органах МГБ. Ён сам нібыта так тлумачыў свайму маладзейшаму сябру і земляку, што па спэцыяльным заданьні закаранёны*

*ў савецкай службе бясьпекі, што сам ён функцыянэр тайнай беларускай антыбальшавіцкай арганізацыі”.*[10]

Алег Стахоўскі казаў моладзі, што яна не рашучая, нічога не робіць. “*Беларусь у такім становішчы, трэба падымацца, сілы зьбіраць, узбройвацца,* — пераказвае словы Стахоўскага Мядзелец. — *Ісьці ў народ, падымаць людзей на барацьбу. Дзейнічаць, наладжваць тэракты. Каб розгалас ішоў, каб людзі чулі і прабуджаліся ад сваёй сьпячкі”.*[11]

Стахоўскі ня толькі раіў шукаць зброю, але і абяцаў нешта ім перадаць. Ён прапаноўваў, каб СБП правёў з “арганізацыяй” Стахоўскага сумесны зьезд. Аднак многія падпольнікі, з кім кантактаваў “функцыянер”, насьцярожана адносіліся да яго прапановаў, не давяралі яму, казалі, што ім не патрэбная зброя, у іх іншыя метады дзейнасьці (“мы не тэрарысты”).

А *МГБ*, відавочна, не задавальняла “дзіцячая арганізацыя”, ім хацелася адрапартаваць пра раскрыцьцё сапраўднага антысавецкага падпольля. Адсюль і правакаваньне на тэракты, чым беспасьпяхова займаўся Стахоўскі. У лютым 1947-га ў Паставах і Глыбокім прайшлі арышты, за краты трапілі, прайшлі праз катаваньні і былі асуджаныя дзясяткі хлопцаў і дзяўчат.

Што ж было з Стахоўскім пасьля разгрому маладзёжнага падпольля? Інфармацыі пра гэта няма, доўгі час яго ніхто ня бачыў. Магчыма, разгадка адшукалася ў базе рэпрэсаваных “Беларускага мэмарыялу”. Там ёсць зьвесткі пра Алега Аляксандравіча Стахоўскага, 1922 году нараджэньня (супадзеньне на 100%). Пазначана, што ён беларус, ураджэнец в. Ігуменава Шаркаўшчынскага раёну, меў сярэднюю адукацыю, на момант арышту жыў у Глыбокім, працаваў загадчыкам крамы. Арыштаваны 30 сакавіка 1945 году, але асуджаны толькі 29 лістапада 1947-га, як “памагаты нямецкіх акупантаў”, на 10 гадоў “папраўча-працоўных лягероў”. Рэабілітаваны Ваенным трыбуналам Беларускай вайсковай акругі 27 лістапада 1964 году.[12]

Рэдка, але такія супадзеньні бываюць. І ўсё ж нам падаецца, што гаворка тут вядзецца якраз пра таго Алега Стахоўскага, які дапамагаў *МГБ* ліквідаваць Саюз Беларускіх Патрыётаў. Дата яго арышту — 30 сакавіка 1945 году — гэта затрыманьне пасьля

дэсанту ў Польшчы. Пасьля арыштаў у Паставах у лютым 1947-га Стахоўскі мог перабрацца ў Глыбокае найперш для бясьпекі. Там уладкавалі яго загадчыкам крамы. А ўжо летам ці восеньню прыйшлі й за ім. Як кажуць, “маўр зрабіў сваю справу”, патрэбы ў яго паслугах больш не было. Алег Стахоўскі на той час перадаў *МГБ* усю інфармацыю па “Дальвіцу”, якой валодаў. А паколькі ён “засьвяціўся” падчас распрацоўкі і ліквідацыі маладзёжнага падпольля, далейшае яго выкарыстаньне ў ранейшай якасьці палічылі немэтазгодным. У такіх выпадках агента маглі перакінуць у іншы рэгіён, але са Стахоўскім зрабілі інакш — арыштавалі. Зрэшты, гэта мог быць і працяг “гульні”, новае заданьне. Але гэта толькі здагадкі.

Алег Стахоўскі стаў “зоркай”, “героем-разьведчыкам” у чэрвені 1967-га (амаль праз тры гады пасьля магчымай рэабілітацыі), калі нарыс пра яго ў трох нумарах змясьціла “Гродзенская праўда”.[13] Без санкцыі адпаведных органаў такія публікацыі зьявіцца ў той час не маглі. Значыць, заслугі Стахоўскага перад *МГБ/КГБ* былі афіцыйна прызнаныя і лічылася, што ён “выкупіў” перад савецкай радзімай усе “зігзагі” сваёй ваеннай біяграфіі.

У згаданым нарысе паведамлялася, што на 1967 год Алег Стахоўскі жыў у вёсцы Бакшты Іўеўскага раёна: “загадвае невялікай крамай, гадуе дваіх дачок”.[14] Вось так сьмела яго ў чарговы раз “засьвяцілі”, магчыма, невыпадкова, з разьлікам на нешта (напрыклад, што былым нямецкім дывэрсантам зацікавяцца заходнія


ЛИЦОМ К ЛИЦУ С ВРАГОМ

спэцслужбы).

А вось што ўспамінаў удзельнік СБП Антон Фурс:

*“Алег Стахоўскі, прадаўшы нас, адышоў у цень. А праз нейкі час яго нібыта бачылі на Гарадзеншчыне ў сане сьвятара. Цікава, як прымаў Бог малітвы гэтага Юды?”*[15].

Зьвесткі пра тое, што Стахоўскі сапраўды “перакваліфікаваўся” ў праваслаўнага сьвятара, пакуль не выяўленыя.

---

1. Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 21 траўня, № 99.
2. Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск — Слонім: БГАКЦ, 1998, б. 72.
3. Гродненская правда, 1967, 21 траўня.
4. Клыкоўская Ц. Саюз Беларускай Моладзі — вяртаньне з забыцьця. — Беласток: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 2004; http://kamunikat.fontel.net/www/knizki/historia/klykouskaja/sbm/06.htm
5. НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 3, арк. 30.
6. Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 2 чэрвеня, № 107.
7. Надтачаев В. Военная контрразведка Беларуси: судьбы, трагедии, победы… — Минск: Кавалер, 2008. С. 206.
8. ПРИГОВОР именем Союза Советских Социалистических Республик. 16-20 июня 1947 года, город Минск, арк. 14. Копія — ў архіве аўтара.
9. Табола А. Мой жыцьцяпіс // Verytas (Мінск), 2004, № 1 (2), б. 12.
10. Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.). — Менск: Наша ніва, 1997, б. 40.
11. Тамсама, б. 41.
12. Жертвы политического террора в СССР; http://lists.memo.ru/d31/f201.htm
13. Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 21 траўня, № 99; 27 траўня, № 103; 2 чэрвеня, № 107.
14. Гродненская правда, 1967, 2 чэрвеня.
15. Гарт..., б. 78.

# АПОШНЯЯ ЗГАДКА ПРА КАМАНДЗІРА БЕЛАРУСКІХ ПАЎСТАНЦАЎ ЯНКУ МАЦЭЛІ

Янка Мацэлі — асоба заўважная сярод камандзіраў Слуцкага Збройнага Чыну 1920 году, а пасьля і ўдзельнікаў антысавецкай партызанскай барацьбы. Ніна Стужынская сьцьвярджае, што ён нарадзіўся ў 1892 годзе ў Лунінецкім павеце.[1] Аднак укладальнікі кнігі "Слуцкі збройны чын 1920 г." называюць вёску Малая Млынка Цараўскай воласьці Слуцкага павету.[2] Можна меркаваць, што Мацэлі ваяваў у Першую сусьветную вайну ў складзе рускай арміі. Дакладна вядома, што ў пачатку 1919-га ён у ранзе падпаручніка быў ад'ютантам аднаго з беларускіх вайсковых аддзелаў у складзе летувіскага войска. Пазьней апынуўся ў Разе, дзе стаў супрацоўнікам Беларускай вайскова-дыпляматычнай місіі. А ў пачатку 1920 году Янка Мацэлі быў ужо ў Менску, у ранзе паручніка быў у 1-й роце рэзэрвы Беларускай вайсковай камісіі.[3]

У траўні 1920 г. БВК накіравала Мацэлі ў Слуцкі і Пінскі паветы для вярбоўкі добраахвотнікаў у беларускае войска, якое мусіла стварацца з дазволу польскіх уладаў. У Слуцку ён разьвіў актыўную дзейнасьць ды летам-восеньню 1920-га стварыў беларускую гарадзкую і павятовую народную міліцыю.[4] Яна налічвала 500 чалавек, а ў рэзэрве былі запісаныя 5 тысяч добраахвотнікаў.[5] Менавіта гэтыя ўзброеныя фармаваньні ў лістападзе сталі ядром будучай Слуцкай брыгады стральцоў БНР. Як піша А. Латышонак, яшчэ да таго Янка Мацэлі меў намер выкарыстаць міліцыю для стварэньня вайсковых частак для генэрал-маёра С. Булак-Балаховіча. І ў канцы кастрычніка пэўныя сілы перайшлі са Случчыны пад Тураў, у лягер "балахоўцаў", якія рыхтавалі свой палескі паход. Мацэлі заставаўся ў Слуцку, працягваў рыхтаваць узброенае



***Янка Мацэлі. Здымак з кнігі "Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах".***

выступленьне супраць бальшавікоў. Адначасова ён перашкаджаў прапольскай агітацыі.[6]

На зьезьдзе Случчыны ў лістападзе 1920-га Я. Мацэлі выбралі ў склад Беларускай Рады Случчыны, ён належыў тады да "антыэсэраўскай апазыцыі". Адначасова Рада Случчыны даручыла паручніку Янку Мацэлі, Паўлу Жаўрыду і капітану Анастасу Анцыповічу арганізацыю збройных сілаў.[7] Неўзабаве Мацэлі стаў камандзірам 2-га батальёну 2-га Грозаўскага палка. Калі дагэтуль яго згадвалі, як паручніка, дык цяпер з'яўляецца згадка, як пра штабс-капітана.[8] Празь нейкі час Мацэлю накіравалі да генэралмаёра С. Булак-Балаховіча, войска якога адступіла ад Мазыра на польскі бок дэмаркацыйнай лініі, "дзеля наладжваньня сувязі", а насамрэч, каб пазбавіцца ад "балахоўца" ў Радзе.[9]

У канцы 1920-га, пасьля паразы случчакоў у баях з бальшавікамі, Янка Мацэлі апынуўся ў Давід-Гарадку (ці ў раёне Нясьвіжу), хацеў змагацца далей. А. Латышонак называе яго "начальнікам штабу... беларурускіх атрадаў" (на красавік 1921 году).[10] Якраз вясной 1921 году разам зь іншымі камандзірамі слуцкіх паўстанцаў (Гаўрыловічам, Самусевічам) Янка Мацэлі сфармаваў з добраахвотнікаў атрады (па 100-150 чалавек у кожным), якія перайшлі на акупаваную бальшавікамі тэрыторыю Беларусі, каб партызаніць.[11] Неўзабаве ён стаў "зялёнадубцам", удзельнікам паўстанцкай арганізацыі "Зялёны Дуб"[12], галоўнага атаманага якога Дзергача мог ведаць з часу працы ў БВК.

У 1921 годзе Мацэлі камандаваў "адной з найбольш буйных [партызанскіх] груповак". Яна складалася з аддзелаў паручніка Антона Мірановіча (знаходзіўся каля Мазырскага павету) і капітана Канстанцінава (знаходзіўся дзесьці каля Ігуменшчыны).[13]

Пра далейшы лёс Янкі Мацэлі дасьледчыкі Слуцкага збройнага чыну і антысавецкага супраціву практычна нічога ня пішуць. Аднак нам удалося натрапіць на яго ліст, дасланы ў рэдакцыю віленскай беларускай газэты "Народная справа". Ён быў апублікаваны ў жніўні 1926 году.[14] Мацэлі (менавіта так ён падпісаўся, бо ў дакумэнтах, публікацыях беларускіх гісторыкаў прысутнічаюць розныя варыянты яго прозьвішча — Мацэльлі, Мацэля, Мяцеля) абвяргаў сваё дачыненьне да агітацыі вяскоўцаў за ўдзел у зьезьдзе палянафільскай "Часовай беларускай рады" Арсеня Паўлюкевіча.[15] "Рашуча гэтаму запярэчваю і дадаю, што ніякіх адносін як да п. Павлюкевіча, гэтак сама і да яго зьезду, я ня меў і ня маю. У Вільню прыяжджаў у справах асабістых, ня маючы нічога супольнага з палітыкай".[16]



# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

У № 25 „Беларускае Справы“ надрукавана заметка, што быццам, я разам з другімі агентамі „доктара“ Павлюкевіча езьдзіў на вёску зганяць на зьезд дэлегатаў. Рашуча гэтаму запярачваю і дадаю, што ніякіх адносін як да п. Павлюкевіча, гэтак сама і да яго зьезду, я ня меў і ня маю. У Вільню прыяжджаў ў справах асабістых, ня маючых нічога супольнага з палітыкай, а інфарматар „Беларускае Справы“ вельмі памыліўся.

З глубокаю пашанаю застаюся
**Янка Мацэлі.**

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы гэтае пісьмо, мусім аднак-жа адзначыць, што ня толькі „Белар. Справа“, але і польскія газэты падалі вестку аб супрацоўніцтве грам. Мацэлі з Павлюкевічам, што ня было запярэчана.

Са зьместу гэтага ліста можна зрабіць высновы, што на 1926 год Янка Мацэлі жыў у Заходняй Беларусі. Праўдападобна, у адным з памежных з БССР раёнаў. Нягледзячы на сьцьверджаньне Ніны Стужынскай, што ён “працягваў антысавецкую партызанскую дзейнасьць да канца 20-х гадоў”[17], відаць, 1925-1926 гг. былі апошнімі, калі Мацэлі ўдзельнічаў у рэйдах на савецкі бок. У 1939-м, калі ў Заходнюю Беларусь прыйшлі бальшавікі, Янку Мацэлі было толькі 47 гадоў. Ён найхутчэй дажыў да таго часу. Але ці ацалеў падчас “зачысткі” былых “зялёнадубцаў” і слуцкіх паўстанцаў, невядома.

*Сяргей Ерш*

---

1. Стужынская Н. Беларусь мяцежная: з гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву. 20-ыя гады XX стагоддзя. — Вільня, 2000, б. 152.
2. Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск: “Медысонт”, 2006, б. 320.
3. Тамсама.
4. Тамсама, б. 320-321.

5. Латышонак А. Жаўнеры БНР. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2009, б. 193.
6. Тамсама.
7. Жаўнеры БНР, б. 195.
8. Тамсама, б. 196.
9. Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах, б. 321.
10. Жаўнеры БНР, б. 209.
11. Тамсама, б. 211-212.
12. Беларусь мяцежная: з гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву. 20-ыя гады XX стагоддзя. — Вільня, 2000, б. 152.
13. Стужынская Н. Беларусь мяцежная: з гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву ў 20-ыя гг. XX стагоддзя. — Вільня: “Наша будучыня”, 2011, б. 196.
14. Пісьмо ў Рэдакцыю // Народная справа, 1926, № 10, 21 жніўня, б. 3.
15. Цікава, што згаданая Мацэлям публікацыя была абвяржэньнем ранейшай: “У сувязі з надрукаванай у № 19 “Беларускае Справы” заметкай [Маецца на ўвазе зацемка “Мамонька “за работай” (Беларуская справа (Вільня), 1926, № 19, 23 чэрвеня, б. 2-3] аб тым, што быццам “ведамы” Мамонька езьдзіў на вёску “зганяць дэлегатаў” на зьезд Паўлюкевіча — наш інфарматар просіць адзначыць, што ён памыліўся адносна да асобы: разам з другім агентам “доктара” ехаў не Мамонька, а гр. Мацэлі” (Спраставаньне // Беларуская справа, 1926, № 25, 21 ліпеня, б. 3).
16. Пісьмо ў Рэдакцыю // Народная справа, 1926, № 10, 21 жніўня, б. 3.
17. Беларусь мяцежная: з гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву ў 20-ыя гг. XX стагоддзя. — Вільня: “Наша будучыня”, 2011, б. 347.

# ВАЖНАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ ПРА АКЦЫЮ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПАДПОЛЬЛЯ ВІНЦЭНТА ГАДЛЕЎСКАГА

Дасьледчык з Барысава Андрэй Цісецкі апублікаваў артыкул пра Бярэзінскае антынацысцкае падпольле 1941-1942 гадоў.* Надрукаваныя дагэтуль крыніцы пра яго падавалі заблытаную, часам скажоную карціну (напрыклад, успаміны эмігранта Леаніда Галяка). Цісецкі ж здолеў рэканструяваць падзеі, прапанаваць абгрунтаваныя версіі.

Паводле Цісецкага, бярэзінскае падпольле, якім кіраваў начальнік мясцовай паліцыі Леанід Шунейка, магло быць зьвязана з менскімі беларускімі дзеячамі — Юльянам Саковічам, Вінцэнтам Гадлеўскім і Іванам Ермачэнкам. На 20 красавіка 1942 г., на дзень народзінаў кіраўніка нацысцкай Нямеччыны Адольфа Гітлера,

было прызначанае паўстаньне ў Беразіно. Шунейка плянаваў з паліцыянтамі разграміць нямецкі гарнізон, узарваць артылерыйскія склады і пайсьці ў лес да партызанаў. Была аддрукаваная патрыятычная ўлётка-зварот да насельніцтва (яна дагэтуль не адшуканая і не апублікаваная). Аднак адбыўся правал (немцам паведаміў пра пляны Шунейкі Корж, камандзір паліцэйскага карнага атрада), былі пакараныя сьмерцю 60-70 чалавек, а сярод іх Леанід Шунейка.

Андрэй Цісецкі зьвяртае ўвагу на той факт, што помнік бярэзінскім патрыётам быў усталяваны пад ціскам грамадзкасьці толькі 3 ліпеня 1998 году і гэта **“адзіны ў Беларусі помнік сябрам не камуністычнага, а нацыяналістычнага антынацысцкага падпольля”**.

Цісецкі дапускае, што сыход зь Менску ў бярэзінскія лясы групы паліцыянтаў на чале з Уладзімерам Шавелем быў скаардынаванай акцыяй з паўстаньнем групы Леаніда Шунейкі. Іх мэтай магло быць узяцьце пад кантроль мясцовага партызанскага руху, які ўжо пачаў стыхійна стварацца, ды накіраваньне яго ў “нацыянальна-патрыятычнае рэчышча”. У траўні 1942-га да Шавеля далучыліся бурмістар Бярэзінскага раёну Сакалоў і яго намесьнік Івашкевіч. Аднак неўзабаве большасьць беларускіх партызанаў былі забітыя на сустрэчы з савецкімі партызанамі. Паводле А. Цісецкага, бралі ў гэтым прадстаўнікі спэцатрада НКГБ СССР С. Ваўпшасава.

Безумоўна, існуе неабходнасьць у пошуку дакумэнтаў па тэме, каб больш глыбока яе вывучыць, каб знайсьці неабвержныя доказы сувязі падпольля Шунейкі з Вінцэнтам Гадлеўскім, адным з лідараў беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціву. Аднак ужо цяпер маем важны факт, які не дазволіць некаторым афіцыйным дасьледчыкам заяўляць, што ім невядомая ніводная антынацысцкая акцыя беларускіх нацыяналістаў.

*С. Ё.*

*Тисецкий А. Тайны Березинского подполья // Историческая правда, 2014, 11 верасьня; http://www.istpravda.ru/bel/research/10552/

# ЗНОЙДЗЕНА МАГІЛА ІВАНА РАМАНЧУКА

Іван Раманчук (1920 — 1987) — камандзір беларускага антысавецкага партызанскага атрада, які дзейнічаў у 1946-1949 гадах у




ваколіцах Нясьвіжу, Клецку, Баранавічаў. Таксама ён быў кіраўніком падпольнай арганізацыі “Саюз змаганьня за незалежнасьць Беларусі”. У траўні 1949-га быў паранены і захоплены савецкімі спецслужбамі. Паколькі ў той час сьмяротнае пакараньне было адмененае, Раманчука асудзілі на 25 гадоў зьняволеньня. Увесь гэты тэрмін ён адбыў, вярнуўся на радзіму, жыў у Барысаве.

Як пісаў “БР”, магілу Івана Раманчука знайсьці не ўдавалася.* Аднак восеньню 2014-га нам пашчасьціла яе адшукаць. Раманчук пахаваны на могілках каля вёскі Вуглы, якая зраслася з Барысавам. Могілкі выкарыстоўваліся як гарадзкія у 1973-1992 гг. Яны знаходзяцца зьлева пры выезьдзе з гораду ў бок Крупак.

Сэктароў, як такіх, там няма. Трэба заходзіць у першы ўваход (калі ехаць з гораду), прайсьці метраў 70-100 да першай шырокай сьцяжынкі, павярнуць налева, у бок гораду. Прайсьці столькі ж метраў і справа будзе помнік на магіле Івана Раманчука. Пахаваньні ў гэтым месцы пераважна датуюцца 1987 годам.

*Андрэй Цісецкі*

* Ёрш С. Іван Раманчук — беларускі партызанскі камандзір і кіраўнік “Саюзу змаганьня за незалежнасьць Беларусі” // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 3-32.

# ФОТАЗДЫМАК ПАРТЫЗАНСКАГА КАМАНДЗІРА БАРЫСА ЛУКАШУКА

"БР" пісаў пра трагічны лёс беларускага партызанскага камандзіра Барыса Лукашука (1910 — 1943).* На той час мы ня мелі яго здымка. Нядаўна ваенна-гістарычны музэй імя Удовікава ў Драгічыне выклаў на сваёй старонцы ў інтэрнэце калекцыю дакумэнтаў і фотаздымкаў партызанскага камандзіра Міхаіла Герасімава. Сярод іх знайшлося і групавое фота партызанаў атрада імя Суворава. У цэнтры стаіць камандзір — Барыс Лукашук. Мусім канстатаваць, што Лукашук на партрэце, напісаным мастаком Алесем Пушкіным паводле апісаньняў, дадзеных былымі партызанамі, не падобны да Лукашука, якога мы бачым на фота. Такое, на жаль, бывае.


http://d-museum.by.

Дзякуем за наводку на калекцыю М. Герасімава краязнаўцу з Барысава Андрэю Цісецкаму.

*Руслан Дашкевіч*

* Дашкевіч Р. Заблытаная справа партызанскага камандзіра Барыса Лукашука // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 62-87.

# ПРЫВІТАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ ПАЎСТАНЦАЎ




У калекцыі паштовак Беларускага інстытута навукі й мастацтва ёсьць даволі рэдкія асобнікі. Напрыклад, паштоўка, выдадзеная ў канцы 1940-х у заходняй Нямеччыне і якая мае назву “Хрыстос Уваскрос!”. На ёй бачым аддзел беларускіх партызанаў пад бел-чырвона-белым сьцягам. Пад малюнкам ёсьць надпіс: “Уваскрэсьне Праўда — Уваскрэсьне Беларусь!”.

У той жа калекцыі ёсьць яшчэ адна падобная паштоўка. Яна горшай якасьці і мае іншы подпіс (лацінкаю): “Прывітаньне беларускіх паўстанцаў!”

Праўдападобна, камусьці спадабаўся першы варыянт паштоўкі і ён зрабіў яе “пірацкае” перавыданьне, зьмяніўшы подпіс. Зусім магчыма, што гэты другі варыянт патрапіў у Беларусь і Польшчу ды быў вядомы беларускім антысавецкім партызанам і падпольшчыкам.

*Мікалай Шыбіцкі*

* http://kamunikat.org/bek/pasztouki.html#did42
** http://kamunikat.org/bek/pasztouki.html#did43




# ПРА ЛІКВІДАЦЫЮ АНТЫСАВЕЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ШЫДЛОЎСКАГА-МЯТЛІЦКАГА, 1950 ГОД

У двухтомніку "Рыжскі мір у лёсе беларускага народу", які сёлета выйшаў у Мінску, зьмешчаны дакумэнт пра ліквідацыю атрада "лясных братоў" Шыдлоўскага-Мятліцкага.* Як вынікае з падборкі дакумэнтаў, гэты атрад аўтары-ўкладальнікі залічваюць да постакаўскіх узброеных фармаваньняў. Аднак мусім гэта аспрэчыць. У адным з выданьняў *КГБ* СССР згадваецца, што ў 1949 годзе на тэрыторыі Маладзечанскай вобласьці дзейнічала "узброеная банда **беларускага нацыяналіста** Мятліцкага".**

Дасьледчыкі В. Ермаловіч і С. Жумар у сваёй манаграфіі згадвалі, што ў 1950 годзе ў Радашковіцкім раёне існавала партызанская група братоў Мятліцкіх. Тады яны аб'ядналіся з групай Шыдлоўскага, якая базавалася ў Валожынскім і Івянецкім раёнах. Апошняя ўтварылася пасьля разьбіцьця савецкімі карнымі органамі атрада Радзюка.***

У "Рыжскім міры..." атрад Радзюка адносіцца да постакаўскіх

фармаваньняў, яго ўдзельнікаў называюць палякамі.**** У пачатку 2000-х намі былі запісаныя сьведчаньні жыхароў Валожынскага раёну, якія сьцьвярджалі, што ні Радзюк, ні яго байцы не былі палякамі, а хутчэй беларусамі каталіцкага веравызнаньня.*****

На жаль, невядома, які з братоў Мятліцкіх быў “беларускім нацыяналістам”: той, які здаўся і быў арыштаваны (Іосіф Мятліцкі), ці другі, пра лёс якога мы пакуль нічога ня ведаем. А можа абодва? Як бы там ні было, а аб’яднаны атрад Шыдлоўскага-Мятліцкага нельга залічваць да постакаўскіх фармаваньняў. Ці быў ён беларускім нацыянальным атрадам? Пакуль адказу няма. Неабходна вывучыць матэрыялы шматтомнай крымінальнай справы.

Можна меркаваць, што Шыдлоўскі і Мятліцкі былі расстраляныя. Мараторый на сьмяротнае пакараньне, які існаваў у Савецкім Саюзе ад 26 траўня 1947 году, быў адменены ўказам прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР ад 12 студзеня 1950-га. Аднак да вынясеньня сьмяротных прысудаў мусілі быць працяглыя допыты з дакумэнтаваньнем усіх фактаў.

Передрукоўваем дакумэнт пра ліквідацыю атрада Шыдлоўскага-Мятліцкага ў перакладзе на беларускую мову. Ён захоўваецца ў Цэнтральным архіве КДБ РБ (справа № 10559, т. 12, арк. 171-175). У “Рыжскім міры...” дакумэнт друкаваўся з купюрамі.

*Сяргей Ёрш*

**Рижский мир в судьбе белорусского народа. 1921 — 1953 гг. Кн. 2. / Национальная академия наук Беларуси, Институт истории. — Минск: Беларуская навука, 2014, б. 328-329.*

***Белорусские буржуазные националисты (учебный материал). — Москва: Высшая школа КГБ СССР, 1957, б. 33.*

****Ермолович В., Жумарь С. Огнём и мечом. Хроника польского националистического подполья в Беларуси (1939-1953 гг.). — Минск, 1993, б. 93.*

*****Рижский мир в судьбе белорусского народа. 1921 — 1953 гг. Кн. 2, б. 316, 326.*

******Была вайна... З гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву /укладальнікі С. Ёрш, С. Лескець. — Мінск: Беларускі Рэзыстанс, 2003, б. 5-7, 9-10.*

# ДАДАТАК

З акта, зацьверджанага начальнікам УМГБ Маладзечанскай вобласьці палкоўнікам Масьціцкім, аб зьнішчэньні бандгрупы Шыдлоўскага-Мятліцкага

г. Маладзечна
21 лістапада 1950 г.

[...] у 8 гадзінаў 30 хвілінаў у лясным масіве каля вёсак Явідоўшчына, Радзеўшчына, Першайскага сельсавета, Валожынскага раёну, Маладзечанскай вобласьці, падчас правядзеньня чэкісцка-вайсковай апэрацыі сіламі УМГБ па Маладзечанскай вобласьці, была ліквідаваная аб'яднаная тэрарыстычная бандгрупа ШЫДЛОЎСКАГА—МЯТЛІЦКАГА.

З надыходам сьвітанку пазначаная банда ў поўным складзе была акружаная і блякаваная ў спецыяльнай ёю абсталяваным для жыльля і перахаваньня бункеры з аднымі выхаднымі дзьвярыма.

У выніку распачатага бою былі забітыя бандыты:

1. ЛЕХТАРЭВІЧ Мечаслаў Мікалаевіч
2. МАКЕЙ Мар'ян Флярыянавіч
3. СТАНКЕВІЧ Антон Аляксандравіч

Бандытам, якія засталіся ў бункеры жывымі, было прапанавана скласьці зброю і здацца. Нашу прапанову прынялі, выйшлі з бункеру і былі захопленыя жывымі:

4. Верхавод банды МЯТЛІЦКІ Іосіф Аляксеевіч
5. Бандыт ГОЛУБ Антон Іосіфавіч
6. Бандыт ЛЕХТАРЭВІЧ Вікенцій Мікалаевіч

Апошнім выйшаў з бункера для здачы верхавод банды ШЫДЛОЎСКІ Браніслаў Вікенцьевіч, які аказваў самы актыўны супраціў і які таксама захоплены жывым у параненым стане. Пасьля апэрацыі яму аказана неабходная медычная дапамога.

У бункеры, дзе хаваліся бандыты, знойдзеныя і забраныя наступныя трафеі:

1. Кулямёт нямецкі № 8430, 1939 году выпуску — 1
2. Чэшскі кулямёт № 9950 і 2 ражкі
3. — .. — № 36 і 2 — .. —
4. Аўтамат "ППШ" № 3098, 1942 г. выпуску і да яго 2 ражкі і 4 дыскі.
5. Вінтоўка "СВТ" № сн 1374, 1941 г. выпуску і да яе адзін ма-

газін.

6. Нямецкая аўтаматычная вінтоўка з магазінам № 5517
7. Польскі карабін № 1886
8. Пісталет бельгійскі № 4134 з адной абоймай
9. — .. — сыстэмы “ВАЛЬТЭР” № 2287 з 2 абоймамі
10. — .. — “ТТ” № ВТ 2573 без абоймы[,] 1943 г. выпуску
11. Рэвальвер сыстэмы “НАГАН” № 6985, 1937 г. выпуску

[...]

20. Міна конусная без запалу — адна

[...]

У раёне апэрацыі бандыт ГОЛУБ А. І., які здаўся, даў паказаньні пра наяўнасьць у бандгрупы ШЫДЛОЎСКАГА на тэрыторыі Вялаўскага дзяржзапаведніка адной добраабсталяванай зямлянкі і аднаго схрону.

Прынятымі мерамі розыску было знойдзена: у 61 квартале Вялаўскага дзярж. запаведніка адна добраабсталяваная драўляная зямлянка. Унутры зямлянкі мелася складзеная з цэглы руская печка, невялікі столік і нары для сну. Якіх-небудзь рэчаў у зямлянцы не было. Пасьля стараннага агляду пазначаная зямлянка разбураная.

На тэрыторыі таго ж кварталу выяўлены схрон — спецыяльна выкапаная яма з драўляным зрубам, звонку заваленая зямлёй і галінамі.

У схроне забраныя наступныя трафеі:

101. нямецкая вінтоўка № 7687, затворн. № 6305 — 1
102. Карабін нямецкі № С/243 — 1
103. — .. — рускі ЕР № 1694, затворн. № ТГ 2669
103а. пісталет “Вальтэр” — калібр 7,65 мм — 1
104. Кулямёт чэшскі МП 43/1 — 1
105. Буйнакаліберны кулямёт нямецкі № 2013 с — 1

[...]

Падчас правядзеньня чэкісцка-вайсковай апэрацыі стратаў з нашага боку не было.

# БЕЛАРУСКІ ЧАСОПІС “ВАЙСКОВЫ”, 1921 ГОД. ПЕРАДРУК

Працягваем перадрук беларускага часопіса “Wajskowy” (“Вайсковы”), які выдаваўся ў Коўне Аляксандрам Ружанцовым (1893 — 1966), беларускім патрыётам, афіцэрам летувіскага войска. Ён выходзіў на шапірографе ў траўні-лістападзе 1921 году, выйшлі дзесяць нумароў.

У мінулым нумары “БР” былі перадрукаваныя першыя тры нумары “Вайсковага” (Беларускі часопіс “Вайсковы”, 1921 год. Перадрук // Беларускі Рэзыстанс, 2013, № 1 (14), б. 50-91), якія захоўваюцца ў зборах Літоўскай нацыянальнай бібліятэкі ў Вільні. Цяпер зьмяшчаем чацьвёрты нумар часопіса, аб’ём якога складаецца з 12 старонак і ў арыгінале быў надрукаваны на беларускай лацінцы.

“KARYS” — “ВАЙСКОВЫ” Кошт 3 аўксіны.

# ВАЙСКОВЫ

Двутыднёвік для беларусаў-вайсковых на Літве.

***************************************************************

Выданьне Вайскова-Навуковага Аддзелу М[іністэрства] А[бароны] К[раю].*

Коўна. № 4. 16 чэрвеня 1921 году.

***************************************************************

ІНСТРУКТАРСКАЯ ПРАЦА

Ад інструктара вымагаецца:

a) **асабістае вышкаленьне.** Інструктар павінен ня толькі растлумачыць патрэбную навуку, але і паказаць яе, навучаючы больш прыкладамі, чымсь словамі.

b) **выразнасьць выкладу.** Інструкцыі і тлумачэньні, якія



WAJSKOWY

M.A.K

INSTRUKTARSKAJA PRACA.

даюцца інструктарамі, павінны быць зусім зразумелыя і выразныя, каб іх маглі сьцяміць навет найбольш тупыя рэкруты. Гэта дасягаецца няўпынным вучэньнем жаўнераў.

с) **умелае выкарыстаньне часу.** Інструктар павінен гэтак размеркаваць сваю працу, каб у працягу часу вызначанага на якое-колечы вучэньне, перарабіць яго з кожным жаўнерам. З пачынаючымі інструктарамі часта здараецца, што яны зашмат часу аддаюць навучаньню аднаго жаўнера, дзеля гэтага здоляюць

яны прайсьці вучэньне толькі з пачынаючымі. Гэта шкадліва адбіваецца на навучэньні аддзелу. Гэтак сама трэба мець на ўвазе, каб у часе вучэньня рэшта жаўнераў старанна зважала на адбываючаеся вучэньне. Розныя гутаркі і агляданьне ў часе вучэньня бязумоўна забараняецца.

d) **выпрабленьне вока да заўважываньня памылак.** Аднэй з найважнейшых якасьцяў інструктара ёсьць выпрабленьне вока ў заўважаньні памылак, зробленых ня толькі вучачыміся жаўнерамі, але і цэлым аддзелам. Гэта дасягаецца добрай знаёмасьцю статуту і доўгай інструктарскай практыкай і ўнутраным глыбокім перакананьнем жаўнераў. Значнай палёгкай у гэтым зьяўляецца мэтодычнасьць у спраўджаваньні асобных вучэнняў, напрыклад, пры [нечытэльна] пастаці, кантраляваньне яе заўсёды з галавы да ног. Падахвіцэр не павінен дараваць вучанаму ім жаўнеру ніякай драбніцы і памылкі; дрэнны кантроль прычыняецца да фальшывага зразуменьня навукі, або да непашаны яго з боку жаўнераў.

з ч. I “Інструктара Пехоты”

**Балесь Завадзкі**
паручнік.

**************************************************************

Дзе бы і як бы мы не спаткаліся з ворагам, нам зараз жа трэба адшукаць яго скрыдлы**, яго бакі.

Ельчанінаў

**************************************************************

**Жаўнерскія гутаркі*****

**IV. Вайсковая адвага**
“Аб долі роднай стараны
Нам сьведчыць не адзін курган,
Дзе дрэмлюць слаўныя сыны,
А страж дзяржыць ноч ды туман”.
*Я. Купала*

У час адходу Літоўскага Войска ад Зах. Дзьвіны 11 ліпеня 1919

году каля дв[ара] Н[овы]-Грунвальд быў сьмярцельна ранены шэрэнговы 1-й Б[еларускай] А[собнай] К[ампаніі] Ян Леановіч. Ён не хацеў патрапіць да палону і, паводле яго апошняй прозьбы, таварышы яго дастрэлілі. Маскоўцы забралі толькі бяздыханнае цела маладога гэроя.

28 жніўня 1919 г. падпаручнік 1-й Б. А. К. **Юры Пліско** быў пасланы са ўзводам для абходу маскоўцаў, упорчыва трымаўшыхся ў дв[ары] Шэдэрн і в[ёсцы] Сусэкле. Прайшоўшы ляснымі тропкамі, перабраўшыся праз раку Ілукшту ў брод, узвод апыніўсяў 40-60 кроках ад правага скрыдла маскоўскіх акопаў. Што была рабіць? Але з Пліско былі беларусы! Ударыўшы зьненацку на дужэйшага ворага ў штыхі, беларусы зьбілі яго з узмацаванай дзелянкі, вытурылі ў поле. Рыцэрская, напамінаючая слаўныя часы даўнейшых войнаў, сьмерць**** падпаручніка **Юрага Пліско**, мал[одшых] п[ад]ахвіцэраў **Міхала Вайцэхоўскага**, **Андрэя Мазоля**, **Юрага Раманава** і шэрэнговага **Яна Рынкевіча**, коштам каторай была куплена пабеда, назаўсёды будзе прыкладам беларусам, як трэба змагацца з ворагамі, не дарма ў маршы 1-й Б. А. К. пяецца:

*“Будзем памятаць прыклад данны ў дзеле сьвятым,*
*Пакуль жывы, будзе біцца з маскалём праклятым”.*

26 кастрычніка 1920 г. каля дв[ара] Марцінішкі (у абшары м. Гэдройцы) шэрэнговы А[собнай] Б[еларускай] К[аманды] **Ярашук** з другім жаўнерам спаткалі зьненацку пры патруляваньні польскага паручніка з жаўнерамі. Таварыш Ярашука трапіў у палон, але Ярашук, карыстаючыся ночнай цемрай, забіў праціўніка і, звальніўшы таварыша, вярнуўся да ўзводу і перадаў камандзеру аб польскім абходзе з тылу.

13 лістапада 1920 г. 7 жаўнераў 1-й кампаніі Б[еларускага] А[собнага] Б[атальёну] пад камандай ст. лейтэнанта **Паўлюка Ласінскага** змагалісь каля в[ёскі] Смілні з палякамі, пераважаючымі іх у 10 разоў, адбілі сваіх 2 палонных і шмат палякаў паранілі і пабілі, а іх сэржанта схапілі да палону.

А колькі яшчэ гэткіх прыкладаў можна адшукаць у журналах баявых дзеяньняў беларускіх часткаў Літоўскага Войска!

Ад ахвіцэраў, старых жаўнераў, з кнігаў і часопісаў*****, калі пісьменны, даведаешся аб гэтым.

Не пакідай толькі думаць аб гэтых бойках, старанна за[в]учы іх, каб ведаць, як і што табе трэба рабіць, каб стаць гэткім волатам.

Калі табе абы-калі давядзецца быць у бітве, успомні пра сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў і пагарджаньне да сьмерці[,] а прых-

ільнасьць да начальнікаў і таварышаў забясьпечаць табе змогу над ворагам ці слаўную сьмерць за **Бацькаўшчыну**!

(працяг у 5 н-ры)

Алесь Смаленец




**Даклад прэзэса****** культурна-асьветнае камісыі**
**Б**[еларускага] **А**[собнага] **Б**[атальёну]
(На III-м Армейскім Асьветным Зьезьдзе)

Сучасны Б[еларускі] Б[атальён] пачаў фармавацца ў канцы верасьня мінуўшага году, — спачатку ў Вільні, а потым гэтае фармаваньне па палітычным варункам была перанесена ў Коўну. Цяпер фармаваньне закончана. Батальён мае ... [лічба адмыслова не называлася — “БР”] добра навучаных стрэлкоў, якія па сваёй нацыёнальнасьці раздзеляюцца гэтакім чынам: беларусаў-грамадзян Літвы — 75%, літоўцаў — 10%, жыдоў — 8%, стрэлкоў іншых нацыянальнасьцяў — 7%.

У першыя часы істнаваньня ба[таль]ёну ахвіцэры-беларусы ўсю ўвагу зьвярнулі на справы толькі вайсковыя — гэта зразумела чаму: першым чынам нам хутчэй трэба была згуртавацца ў вайсковую

едініцу, каб кожную хвілю, кожную гадзіну быць прыгатаванымі да руху ў Вільню ці ў Городню, — нашыя супольныя літоўска-беларускія сталіцы.

І толькі з студня месяца мы сталі мець магчымасьць узяцца за працу культурна-асьветную. Была створана к[ультурна]-а[сьветная] камісыя ў складзе трох ахвіцэраў і трох стрэлкоў.

Не марнуючы часу, камісыя разам прынялася да асьветнае працы ў баталёне, але трэба заўважыць, што ў гэтым напрамку яна на кожным кроку спатыкала ўселякага роду перапоны: то кніжак і [нечытэльна] няма, то грошаў няма, то газэт і журналаў няма.

Не гледзячы аднак на тое, камісыя патрапіла зрабмць вось што:

1) Было збудовано колькі вечароў з беларускімі спектаклямі, сьпевамі, балетамі і танцамі. Вечара прайхадзілі вельмі добра і дужа спадабаліся ўсім.

2) Было прачытано некалькі лекцыяў, напрыклад, “Чаму мы ваюем з палякамі”, “Бальшавізм і яго паследзтва” і г. д. Лекцыі чыталісь нашымі паважанымі і добра ўсім знаёмымі літоўска-беларускімі дзеячамі Дырэктарам Дэпартамэнту Усходніх******* Спраў п. **Боевым** і баталёным свяшчэнікам о. Корчынскім. Па свайму глыбокаму зьместу і ўнешняй прыгожасьці лекцыі мелі вялікую ўдачу сярод стрэлкоў.

3) Камісыя прыступіла да адчыненьня ротных школаў дзеля навучэньня маладых стрэлкоў, якіх у баталёне шмат — каля [нечытэльна] %. З той [нечытэльна] ротных школаў (на беларускай мове) камісыя лічыць сваёй галоўнай справай, сваім першым абавязкам.

4) Б[атальённ]ая бібліятэка ёсьць, але ў ёй матэрыялу пакуль што замала: некалькі кнігаў, газэт і журналаў на мовах літоўскай, беларускай, расейскай і жыдоўскай. Камісыя пітае глыбокую надзею, што сучаснае становішчэ зьменіцца, што хутка мы будзем у Городні і тады з дапамогай свойго Міністэрства Беларускіх Спраў і тых гурткоў, якія там працуюць, адбудаваць якую мае быць бібліятэку.

5) Фатаграфічных снімкаў мы маем досіць: усе мамэнты жыцьця б[атальё]ну зафіксаваны. Праўда, сваей фатаграфіі ў нас німа, зато часто заклікалі фатаграфа прыватнага.

6) Кожны стрэлок б[атальё]ну быў ня менш 2 разоў у кінематографу.

12.IV.1921. Прэзэс,

М. ... [адмыслова не названае — “БР”] паручык **МАЁРАЎ**.

************************************************************

З тэрмінолёгіі, укладзенай камісіяй Менскага Беларускага Пэдагагічнага Інстытуту.

Назовы месяцаў:

Студзень, люты, сакавік, красавік, май (травень), чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, кастрычнік, лістапад, сьнежань.

Назовы дзён:

Нядзеля, панядзелак, аўторак (другадзень), серада, чацьвер, пятніца, субота.

**************************************************************

**Восемтыднёвая праграма вышкаленьня рэкрута пяхоты** (гл. № 3)

[Выданьне Белар. Вайсковай Камісіі. Лодзь, 1921 г.]

Парадак дня.

І-ы тыдзень

6.00 Сыгнал.

6.00 — 7.30 Устаюць, апранаюцца, сьнедаюць і парадкуюць казарму.

7.00 — 8.00 Пераглядаюць апратку, зброю і г.д. ва ўзводах.********

8.00 — 8.45 Лекцыя.

9.00 — 11.30 Практычныя заняцьці на абшары.

11.30 — 14.00 Пярэрва, рапарт і палудзень.

14.00 — 14.45 Лекцыя.

15.00 — 17.00 Практычныя заняцьці ў раёне казармаў.

17.00 — 18.00 Чыстка зброі, чыстка абмундзераваньня і перагляд якасьці яго.

18.00 — 19.00 Дзенны загад і вячэра.

19.00 — 20.00 Свабодныя.

20.00 — 20.30 Сьпевы.

20.30 — 21.00 Паверка, вячэрнія малітва і складаньні вапраткі.

21.00 Адпачынак.

Ад ІІ-а да IV тыдня.

6.00 — 8.00 Як вышэй.

| | |
|---|---|
| 8.00 — 11.30 | Практычныя заняцьці на плацы вучэньня. Рэшта як вышэй. |

Ад V-а да VIII-а тыдня

| | |
|---|---|
| 6.00 — 8.00 | Як вышэй. |
| 8.00 — 8.45 | Лекцыя. |
| 9.00 — 11.30 | Практычныя заняцьці. |
| 11.30 — 14.00 | Як вышэй. |
| 14.00 — 17.00 | Практычныя заняцьці на абшары. Рэшта як вышэй. |

**Субота.** Расклад дня залежыць ад мясцовых варункаў, аднак ва ўнутранай службе трэба, як сьлед, пераглядаць якасьць апраткі і рыннштунку і штодругі тыдзень праверáць інвентар казармаў. На поўдні акуратная чыстка казармаў, праветрываньне матрацаў, пасьцелі, вопратак і г. д., калі пазваляюць мясцовыя варункі, купальні альбо лазьні.

**Нядзеля.**

| | |
|---|---|
| 7.00 | Сыгнал. |
| 7.00 — 8.30 | Устаюць і г. д. |
| 8.30 — 9.00 | Перагляд дзяжурным ахвіцэрам. |
| 9.00 — 10.00 | Набажэнства. |
| 10.15 — 11.00 | Дзенны загад. |
| 11.00 — 14.00 | Пярэрва, рапарт і палудзень. |
| 14.00 — 15.00 | Вучэньне аб захоўваньні на вуліцы, практычнае вучэньне, як аддаваць гонар. |
| 15.00 — 15.30 | Вячэра. |
| 15.30 — 20.30 | Свабодныя. |
| 20.30 | Як заўсёды. |

[працяг будзе]

*****************************************************************

Не лікам, але уменьнем змагаюць.

Сувораў

*****************************************************************




************************************************************

**Сусьветная вайна ў беларускай краснай пісьменнасьці**

Чародным этапам развіцьця і пашырэньня б[еларускага] руху зьяўляецца час ад пачатку вайны ў 1914 годзе да рэвалюцыі ў Расеі ў 1917 г.

У гэты пэрыод б[еларуская] красная пісьменнасьць, узыйшоўшая да 1914 г. на шырокі шлях свайго развіцьця і зацікавіўшая за кароткі час ад 1905 г. беларускае, а такаж і іншае грамадзянства сваім характвом, арыгінальнасьцю і рожнакалёрнасьцю сваіх тэмаў і складу, перажыла яшчэ адзін этап свайго разьвіцьця і ўзбагацілася новымі для сябе тэмамі.

Гэтая вайна, гарматныя стрэлы якой хоць і змоўклі ў сучасны мамэнт, але насьледак яе — людзкі стогн чуецца па ўсім сьвеце і дагэтуль, мае вялікае гістарычнае значэньне ў жыцьці б[еларускага] народу, а дзеля гэтага зусім зразумела, што павінна была зрабіць вялікі ўплыў на думкі, погляды і разуменьне тых людзей, якія былі правадырамі народу — ягоныя песьняры-паэты.

Выказ і мена [абмен — “БР”] думкамі б[еларускіх] песьняроў на страніцах б[еларускай] прэсы ў разрэзанай фронтам на дзьве часткі Беларусі, а таксама і ў калёніях беларускіх заснованых уцекачамі па далёкіх кутох Расеі, дае нам характэрыстыку псыхічнага

Арол, а адтуль — у Маскву. Там нас у сталыпінскія вагоны пагрузілі і аж у Волагду завезьлі. З Волагды — ў Варкуту. І на шахту прама адразу.

На сьледзтве цікавіў іх толькі Дальвіц. Каб я пацьвердзіў, што там быў.




***Варкута, другая палова 1950-х.***

Пасьля арышту маёр выйшаў, пагаварыў з шафёрам, гаворыць: “Хочаш выпіць?” Я гавару: “А чаму ж не?” Дастае, аддае мне 10 тысяч злотых. Прыехалі, дзе рэстаран, шафёра паслаў, той схадзіў, паглядзеў. Вяртаецца, кажа, што там нікога няма, бо гэта была гадзіна ці дзьве ночы. Выпілі мы там. Я ўвогуле 200 грам выпіў. А яны ўжо не сталі. “Калі хочаш, пі”.

Ехалі, песьні сьпявалі. “Ці ўмееш рускія?” — пытаюцца. Я кажу: “Умею”.

На сьледзтве ў Лігніцы сьледчы мне сказаў пра Родзьку: “Мы яго расстралялі”. І глядзіць на мяне, як я адрэагую.

Далі мне 25 гадоў і 5 гадоў паражэньня ў правах. А прасядзеў 7 гадоў. І ўсе — на Варкуце. У 1956-м я ўжо быў вызвалены, пашпарт меў. Перайшоў на



***Пасля зняволення ўпершыню Нікан прыехаў у родныя Круплі, 1956 г.***

грамадзянскую працу, працаваў у шахце. І там быў аж пакуль не пайшоў на пенсію — ў 1972 годзе. Тады памяняліся кватэрамі на Украіну [у Днепрапятроўскую вобласьць]. Там жылі з жонкай гадоў 18. А пасьля, як бацька і маці сталі слабымі ў вёсцы, прыехалі ў Беларусь іх даглядаць.

Пра лёс беларускага афіцэра Ўладзімера Мікуліча, які пасьля вайны жыў пад чужым прозьвішчам і памёр у Польшчы, “БР” распавядзе ў наступных нумарах.

*Атаман Крэчат*

# ТАМ, ДЗЕ ЯШЧЭ ЗМАГАЮЦЦА
## (ФРАГМЭНТЫ)

*“Зялёны Дуб” невыпадкова ў 1920-я ўвайшоў у склад манархічнага “Брацтва Рускай Праўды”. З аднаго боку, гэта была магчымасьць здабыць саюзьніка і сталае фінансаваньне дзейнасьці, зь іншага — сярод партызанаў Дзергача хапала рускіх патрыётаў, манархістаў, проста людзей, якія атрымалі адукацыю ў рускай школе, служылі ў рускай арміі і сэрцы якіх не закранула іскра беларушчыны, беларускай нацыянальнай ідэі.*

*Апынуўшыся ў БРП, атаман Дзяргач вымушаны быў пагадзіцца на тое, што ягоных партызанаў ў рускім эмігранцкім друку пачалі называць “рускімі паўстанцамі”. Ён і сам “падыгрываў” саюзьнікам. Яскравы прыклад — кніга “Там, где еще бьются. Повести-были из жизни русского повстанчества” (Бэрлін, 1929). Большасьць тэкстаў якраз пра беларускіх партызанаў. Значную іх частку напісалі беларускія атаманы Дзяргач і Крэчат.*

*Аднак кніга спэцыфічная, напісаная для рускага чытача-манар-*



*хіста. Тым ня менш, у ёй ёсьць нямала цікавых згадак. Напрыклад, пра пачаткі “Зялёнага Дуба” ў 1919-м, пра загінулых зялёнадубцаў-герояў капітана Георгія Крывашэіна, падпаручніка Янкоўскага, паручыкаў Ільіна і Ярашука, партызанаў Рыгора Дземідзенку і Мікалая Шышкевіча, Ганну Доўгерд. Складальнікі кнігі адзначалі: “Некаторыя з гэтых нарысаў былі першапачаткова напісаныя іх аўтарамі на беларускай мове і спэцыяльна для гэтай кнігі перакладзеныя на рускую сваімі ж братамі-паўстанцамі”.**

*У гэтым нумары “БР” мы зьмяшчаем фрагмэнты ўспамінаў беларускага партызанскага атамана Крэчата**, аднаго з паплечнікаў Дзергача. Падзагалоўкі да асобных іх частак дадзеныя намі.*

---

*Там, где еще бьются..., б. 5.

**Пра яго вядома мала (акрамя таго, што напісаў ва ўспамінах ён сам). Ніна Стужынская згадвае, верагодна, сапраўднае прозьвішча атамана — Ярашэвіч. У 1924 г. ён, Дзяргач і Грач зьбіралі ў Заходняй Беларусі актыў “Зялёнага Дуба”, паколькі пасьля далучэньня да “Брацтва Рускай Праўды” аднаўлялася баявая дзейнасьць. Гл. Стужынская Н. Беларусь мяцежная. З гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 1920-я гг. — Вільня: “Наша будучыня”, 2011, б. 212. А. Латышонак, які няпэўны, “Крэчат” “прозьвішча гэта ці пэсўданім”, піша, што ў сьнежні 1920 г. ён удзельнічаў у нарадзе кіраўнікоў “Зялёнага Дуба” ў Лунінцы. Гл. Латышонак А. Жаўнеры БНР. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2009, б. 208. Гэты факт пацьвярджаецца і ўспамінамі “Крэчата”.

## СУСТРЭЧА З ДЗЕРГАЧОМ

У думках паўстаў Галоўны Атаман партызанскіх атрадаў Зялёнага Дуба Дзяргач.* Я прыгадаў, як у 1919 годзе ўпершыню я сустрэў яго ў Менску.

Гэта былі дні, калі пасьля маіх дзёрзкіх уцёкаў з сутарэньняў Гомельскай Ч. К.** і пасьля ўсялякіх доўгіх выпрабаваньняў, я дабраўся да Менску. Што рабіць? — гэта была першая думка. Сядзець склаўшы рукі і стрымана глядзець да д’ябальскі чырвоны баль я ня мог. [...]

*Вячаслаў Адамовіч (малодшы, 1890 — пасьля 1939 г.) — беларускі палітычны і вайсковы дзяяч, пісьменьнік, кіраўнік Беларускай сялянскай партыі “Зялёнага Дуба”, галоўны атаман яе партызанскіх

аддзелаў. — “БР”.

**ЧК — *“Всероссийская чрезвычайная комиссия по борьбе с контрреволюцией и саботажем”* пры Саўнаркаме РСФСР — карны ворган бальшавікоў, заснаваны ў сьнежні 1917 году. — “БР”.

Выпадкова я сустрэў на вуліцы паручыка Анусевіча* (як пасьля аказалася, гэта быў нягоднік, які тайна ўваходзіў у бальшавіцкую арганізацыю і здраджваў Беларускую Вайсковую Камісію, у якой ён быў чальцом) і даведаўся ад яго, што ў Менску ёсьць Беларуская вайсковая “антыбальшавіцкая” арганізацыя, якую называюць Беларуская Вайсковая Камісія. Туды я вырашыў пайсьці і зарэгістравацца.

*Зьміцер Анусевіч — ураджэнец Магілёўскай губэрні. Падчас Першай сусьветнай вайны быў падпаручнікам рускай арміі. З 1919-га — афіцэр Беларускай вайсковай камісіі. Далейшы лёс невядомы. — “БР”.

Калі ўвайшоў у вэстыбюль, я сустрэў на лесьвіцы чалавека, апранутага ў форму афіцэра Вайсковай Камісіі, які спыніўся і дапытліва паглядзеў на мяне.

— Паслухайце, — спыніў ён мяне. — Вы, калі не памыляюся, вайсковец?

— Так, я быў ім. А што?

— Значыць, я не памыліўся. Цяпер не зьдзіўляйцеся маім словам, але даверцеся мне.

— Я вас не разумею.

— Зараз зразумееце. Толькі раней дазвольце вас спытаць: вы ідзеце рэгістравацца?

— Дакладна так. Але чаму вы мяне распытваеце?

— Яшчэ адно пытаньне. Якога вы кірунку?

— Я зноў зусім не разумею, навошта вам гэта ведаць.

— Будзьце шчырыя і адкажыце прама. Вы афіцэр?

— Так.

— Якога палка?

— Такога [ён назваў нумар].

— Цяпер скажыце, як афіцэр афіцэру, вы за манархію?

— Так, безумоўна, і пакуль я жывы.

— Тады ведайце, што ў Вайсковай Камісіі такім, як мы, ня месца. Тут людзі іншага гатунку. Тут людзі прынялі рэвалюцыю. Нашыя ідэі толькі сьмешныя ім.*

*Польскія спэцслужбы мелі інфармацыю, што ў склад Беларускай вайсковай камісіі ўваходзілі ня толькі эсэры, але і камуністы, якія праводзілі антыпольскую прапаганду. Больш падрабязна пра

гэта гл.: Кароткі нарыс беларускага пытаньня. — Мінск, 2009, б. 89. — “БР”.

— Але што ж рабіць? І як быць карысным Радзіме? Няўжо ўсё загінула?

— Не, не загінула. Скажыце, ці хочаце ісьці са мною?

— Але, хто ж вы?

— Я атаман партызанскіх атрадаў Зялёнага Дуба, Дзяргач. У нас ёсьць сфармаваныя партызанскія атрады. Там такі, як вы, будзе жаданым. Там вы, спадзяюся, знойдзеце і іншых братоў па зброі. Ну што, згодныя?

— Ня ведаю, ці магу я вам верыць. Усё гэта так дзіўна... Нашая сустрэча, нашая размова, нарэшце, вашая прапанова.

— Калі ня верыце, калі ласка. Тады ідзіце туды, куды вы йшлі, — сказаў Дзяргач, ужо павярнуўшыся, каб сыходзіць.

— Пачакайце, — спыніў я яго. — Вы не зразумелі мяне. Я вагаюся толькі таму, што ня ведаю вас.

— Я сказаў усё, — рашуча адказаў Дзяргач. — Ці вы ідзеце са мной, ці бывайце.

— Я іду з вамі, — сказаў я.

— Выдатна. Тады хадзем прэч ад гэтай гнілі. Гэта такія ж нам ворагі, як і бальшавікі.

## ПАРТЫЗАНКА

Дзяргач не ашукаў мяне. Я апынуўся з роднымі мне па духу. Далей Польская вайна з бальшавікамі, пасьля мір, а для Беларускіх паўстанцкіх атрадаў загад аб раззбраеньні і інтэрнаваньні партызанаў.

Што ж рабіць?

Трэба было шукаць выйсьце і яно знайшлося.

— Атаман, — сказаў я Дзергачу. — Усё скончана. Усе мары нашыя разьляцеліся. Мы нікому цяпер не патрэбныя. Нам загадаюць раззброіцца і ісьці на ўсе чатыры бакі. На гэта я не пайду. Я заяўляю, што мае партызаны і я зброі не здамо. Я сёньня ж пакідаю Польшчу, пераходжу з маім атрадам мяжу і буду працягваць [змагацца]. Дабраславі мяне на гэта, атаман! Дабраславі і зразумей! Калі кімсьці, хто мае сваю Радзіму, аднаўлены мір з бальшавікамі, то для нам, якія Радзіму згубілі, міру быць ня можа.

— Ты маеш рацыю, Крэчат. Ідзі пад гэтым абраным табой імем зьнішчаць ворага і няхай дабраславіць цябе Госпад.

Уначы, у канцы сьнежня 1920 году, 527 партызанаў пад маім камандаваньнем перайшлі мяжу Польшчы каля вёскі Бор Луні-

нецкага павету.

Прабіваючы зброяй дарогу, кідаючыся то ўправа, то ўлева, пасьля пяці месяцаў мы дабраліся амаль пад самы Мазыр і зрабілі часовую стаянку ў лясах на берагах ракі Пціч. Тут і засьпела нас вясна.

Уздоўж ракі размясьціліся групы партызанаў. Тут жа, мірна жуючы траву, хадзілі коні пад сядлом. Амаль ніхто ня спаў. Адныя закусвалі, пацягваючы самагонку з фляг, іншыя сядзелі ці напаўляжалі. Твары людзей, асьветленыя месяцам, здаваліся дзіўна-фантастычнымі. І сапраўды! Ці ж гэта не глава з фантастычнага рамана — з купкай людзей прабрацца больш чым на 200 кіламетраў у глыбіню гэтага вялізнага д’ябальскага царства і там умудрацца жыць сваім уласным маленькім царствам?

Але што заставалася рабіць?

Было два выйсьця. Адно — заставацца ў Польшчы і гніць па лягерах, іншы — безпрытульна бадзяцца ў сябе ж дома, бадзяцца пад страхам сьмерці, але ведаць, што ты служыш вялікай справе.

Мы выбралі другое жэрабя.

“Лепш сумленна памерці, чым быць рабамі”, — гаварылі мае партызаны.

І яны, абраўшы, ужо не шкадавалі аб сваім рашэньні. Я глядзеў на іх і думаў: “Хто ацэніць ваш незаўважны подзьвіг і вашу самаахвярнасьць? Можа знойдзецца, хто пашкадуе вас, але не ацэніць ніхто”. [...]

## АД’ЮТАНТ ДЗЕРГАЧА КАПІТАН КОРЧ

— Маю гонар далажыць, атаман, — сказаў ад’ютант. — Прыбыў ад’ютант Галоўнага Атамана, капітан Корч*, і хоча неадкладна вас бачыць.

*Сапраўдныя імя й прозьвішча Мікалай Крывашэін. — “БР”.

— Вядзеце яго хутчэй, капітан. Няхай павесяліцца з намі.

Ад’ютант пайшоў і праз хвіліну вярнуўся разам з капітанам Корчам.

Гэта быў малады, 25-гадовы чалавек, станісты, высокі, прыгожы, з чорнымі вачыма і такімі ж чорнымі валасамі. На шчоках яго гуляў далікатны, амаль жаночы румянец.

“Херувімчык” — так называлі яго ўсе. Аднак, нягледзячы на сваю зьнешнюю жаноцкасьць, ён быў сьмелы і энэргічны, і яго ўсе любілі (пра жанчын не даводзіцца і гаварыць) за яго спагадлівасьць і дабрыню.

— Маю гонар далажыць, пан атаман, аб сваім прыбыцьці,

— адрапартаваў ён, падыходзячы.

— Пакінь, Коля, сваю фармалістыку. Бачыш, мы тут весялімся? Далучайся і ты.

— Не магу. У мяне ёсьць да вас справа і мне нельга доўга заставацца.

— Гэта іншая размова. Тады хадзем да мяне. Дарэчы, ты, пэўна ж, з дарогі прагаладаўся?

— Шчыра кажучы, ёсьць крыху. Да таго ж, я ўвесь прамок...

— Нічога, ёсьць чым пагрэцца. Віп'еш адну-другую, сагрэешся.

[...]

Мы зайшлі ў намёт. Там было ложа са сьвежай травы, з пакладзенымі наверх лямцом і коўдрай. Вышэй, каля скрынкі ад гільз, вісеў абразок... Стол замяняў зэдлік, на якім ляжала карта-"трохвёрстка" і компас. Тут жа, на кучы травы, сядзеў Васіль, які выконваў абавязкі дзяншчыка. Пры нашым уваходзе ён падхапіўся, трымаючы ў руках вялізны "Маўзэр", які якраз чысьціў.

[...]

Праз некалькі хвілін зьявіліся масла, сыр, вароная сьвініна, хлеб і самагонка.

— Ну, Колік, схапі самагонкі і гавары з чым прыбыў, — зьвярнуўся я да Карча, наліваючы яму невялікую шкляначку.

— Галоўны Атаман пытаецца, што ты зьбіраешся далей рабіць, маючы на ўвазе вядомы ціск, які ўжо адчуваецца на плячах нашай арганізацыі. Ад нас патрабуюць проста немагчымага.

— А менавіта?

— Ад нас патрабуюць поўнага спыненьня актыўнай дзейнасьці супраць бальшавікоў. Мір, кажуць, заключаны і ўсталяваныя межы...

— Так, але ці ж Дзяргач пагаджаецца?

— Ведаеш... Скажу табе шчыра. Афіцыйна — так, але ўжо Міронавым складзены плян падпольнай працы. У нас нават складаецца ўражаньне, што, верагодна, падпольная праца прынясе больш плёну, чым легальная.

— Дык у чым жа справа?

— Справа вось у чым, дарагі Крэчат. Я думаю, мы не памыліліся ў табе, мяркуючы, што ты не адыдзеш ад распачатай табой справы?

— Я пайду ад пачатай справы? Ад свайго стварэньня? Няўжо Дзяргач мог сумнявацца ўва мне? — я расхваляваўся.

—Не хвалюйся, Крэчат, — спакойна адказаў Корч. — Ніхто ў

табе не сумняваўся. Атаман толькі хацеў ведаць тваё меркаваньне адносна пляна Міронава, а таксама, што ты думаеш далей рабіць сам.

—Бачыш, Колік, я разумею справу так. Усялякая праца, накіраваная супраць бальшавікоў, ужо добрая. Што ж да маіх асабістых плянаў, дыу слухай. Калі я перайшоў мяжу, ужо тым самым мая праца супраць бальшавікоў стала відавочнай. Пасьля, як бачыш, я здолеў з партызанамі дабрацца да Пцічы. Далей, вядома, тут не застануся, бо месцазнаходжаньне вельмі нявыгоднае для якіх-небудзь апэрацый. Таму я любым коштам хачу дабрацца да Вераб'ёвага леса пад Ігумен*. Там я маю намер стварыць базу. Бальшавікам, па асаблівасьцях той мясцовасьці, злавіць мяне будзе цяжка. Да таго ж я разьлічваю на дапамогу сялянаў.

*Горад на ўсходзе Менскай вобласьці, з 1923 году — Чэрвень. — "БР".

— Паслухай! — усклікнуў Корч. — Але ж гэта сапраўднае вар'яцтва! Зразумей, Крэчат, да Ігумена ж ці не 300 вёрст. Такі пераход ужо занадта небясьпечны.

— Ня варта спрачацца. Зрабіць гэты пераход не больш небясьпечна, чым застацца тут. Так я вырашыў. А там, як Бог дасьць.

— А як жа сувязь з Галоўным Штабам?

— Пакуль не апынуся на месцы, пра трывалую сувязь гаварыць не даводзіцца. Усё ж пра сябе буду даваць зьвесткі, хаця і ня вельмі рэгулярна.

— Як ведаеш, Крэчат. Табе лепш відаць. [...]

— Значыць, вырашана, [ — сказаў атаман Крэчат сваім камандзірам. — ] Заўтра на сьвітаньні ў паход. Парадак наступны. Караткевіч і паручык Бако застануцца на месцы і выступяць праз паўгадзіны па нашых сьлядах. Паручыкі Чадай, Беруковіч і Дабравольскі пойдуць правым бокам. Атрады Мікалаева, Сокала, Краснапольскага, Зьмірука і Кургана рушаць левым бокам. Левы бок я адмыслова прыкрываю таму, што ён адкрыты для ворага, тады, як справа рака Пціч зьяўляецца найлепшым прыкрыцьцём. Капітан Нязнанскі з атрадам накіраваўся наперад, як разьведка. Пры мне застанецца паручык Ярашук зь яго атрадам, плюс штаб. Атрады павінны знаходзіцца не больш, як у паўтаравёрстнай дыстанцыі адзін ад другога, пільна сачыць за магчымымі дзеяньнямі бальшавікоў. Вось і ўсё. Цяпер, панове, ідзіце і праінфармуйце часткі. Загадайце агледзець узбраеньне ды заўтра з Богам у паход.

Калі ўсе выйшлі, я павярнуўся да Карча, які задуменна сядзеў на маім ложы.

— Пра што задумаўся, Колік?

— Пра тваё вар’яцтва, — адказаў той.

— Пра маё вар’яцтва? Не варта, дарагі. Ці не ўсё на сьвеце цяпер ёсьць, па сутнасьці, вар’яцтва. Толькі яго называюць жыцьцём. Таму і не варта разьбірацца ў адценьнях. Значыць, перадай Атаману Дзергачу, як мы вырашылі.

— Шчыра кажучы, і ён такі самы вар’ят. Ты і ён — аднолькавыя. Ты думаеш, ён уседзіць? Ніколі. Вось пабачыш, сам прыедзе табе дапамагаць.

— Я ў гэтым таксма не сумняюся. Вось таму мы ўсе яго і любаім, што ён ня будзе сядзець, склаўшы рукі. [...]

Праз некалькі хвілін капітан Корч з 20 партызанамі зьнік у цемры.

[...]

## НАЛЁТ НА СЛУЦК

У гэтыя ж дні невялікі атрад паручыка Чадая, колькасьцю толькі каля 60 чалавек, напаў на вёску Лядны, дзе знаходзіўся атрад бальшавікоў, якія прыехалі праводзіць рэквізыцыю. Удар быў нанесены зьнянацку, і бальшавіцкі атрад быў бы разьбіты, калі б у гэты час не падыйшоў зусім нечакана ўзмоцнены атрад Слуцкай ЧК і не ўдарыў на партызанаў з тылу.

Гэтая дапамога падбадзёрыла чырвоных і яны лавінай кінуліся на нашых з усіх бакоў. Барацьба была няроўная. 260 чалавек чырвоных супраць 60 чалавек партызанаў. Чадай, пабачыўшы немінучую гібель, падаў сігнал адступаць. Але адступаць не было куды — чырвоныя былі з усіх бакоў.

— Прабівацца скрозь шыхт! — крыкнуў Чадай, і партызаны кінуліся наперад.

Больш за палову пасьпелі праскочыць, але астатнія загінулі. Пад Чадаем забілі каня, і ён зваліўся наскаку і, ударыўшыся галавой аб зямлю, страціў прытомнасьць.Чырвоныя не забілі яго на месцы, але вырашылі забраць з сабой у Слуцк, каб там учыніць над ім суд і катаваньнямі выцягнуць зьвесткі пра партызанаў.

Калі прыбылыя на злучэньне да сваіх рэшткі атрада Чадая дакладвалі пра лёс свайго камандзіра, якраз прыбыў з 180 людзьмі Галоўны Атаман Дзяргач. Даведаўшыся пра тое, што адбылося, ён загадаў неадкладна падрыхтавацца да налёту на Слуцк.

— Да Слуцка 30 вёрст. Да вечара будзем там. Трэба сьпяшацца, каб бальшавікі не пасьпелі расстраляць Чадая. Неадкладна выступаем. Чырвоныя, вядома, не чакаюць нашага візіту...

— Ну, малайцы!.. Даўно я з вамі ня быў у налёце. Думаю, што і цяпер пакажаце сябе па-старому, — зьвярнуўся Дзяргач да партызанаў.

— Пастараемся, атаман, — загудзелі партызаны.

—Дзякую! А цяпер у паход!

Да вечара мы былі пад Слуцкам. Падзяліўшыся на дзьве паловы, мы ўдарылі на горад. Ня буду пісаць пра разгубленасьць бальшавікоў, якія не чакалі ні такога сьмелага налёту, ні такой унушальнай сілы.

Была 7-я гадзіна вечара. Чырвоныя атрады Слуцкай ЧК і пяхотныя часткі 44-й дывізіі нават не рашыліся ўступіць у бой. Кідаючы ўзбраеньне, яны ўцякалі хто куды... Большая палова складу ЧК была захопленая на месцы. Міліцыя спрабавала супраціўляцца, але тут жа была ўся перабітая.

У маёй памяці ярка жыве сцэна, якая адбылася паміж атаманам Дзергачом і захопленым габрэем-камісарам Слуцкай Чэкі. Дзяргач зьвярнуўся да камісара:

— Дзе паручык Чадай, якога вы захапілі?

— Ён жа цэлы. Ён жа знаходзіцца ў выдатных умовах. Яму нічога кепскага не зрабілі. Ён адпачывае..., — адказваў касісар і пры гэтым дрыжэў.

— Дзе ён?

— Вы ж не павінны крыўдзіцца. Як усялякі, хто ідзе супраць улады, ён знаходзіцца ў зьняволеньні. Гэта ж не ад нас... Гэта ж парадак. Я думаю, што і ў вас, калі хто не слухаецца, таго зьмяшчаюць пад замок. Але ж я запэўніваю вас, яму зусім выдатна. Яму нават даюць есьці, ён толькі сам нічога ня хоча. Я яго сам угаворваў, каб ён еў. А ён замест удзячнасьці толькі лаецца. Запэўніваю вас, я быў зь ім ветлівым.

— А дзе ў вас зьняволеныя?

— Тут пад намі ў сутарэньнях. Там, вы ведаеце, крыху вільготна. Але гэта ж ня мы будавалі.

— Вядзі туды. Самі паглядзім.

Калі мы ўвайшлі ў падвал ЧК, на нас дыхнула гнілатой і смуродам. Паручык Чадай ляжаў на голай зямлі, нават без саломы. Пабачыўшы нас, ён, узрадаваны, ускочыў на ногі.

— Ура, атаман! Я здаровы, цэлы і хоць цяпер гатовы ў атаку.

Пабачыўшы камісара, ён зароў, як дзікі зьвер:

— Так ты яшчэ жывеш, сабака? Атаман! Гэты камісар падчас допытаў асабіста забівае сваіх ахвяраў.

— Пакінь пакуль камісара! — загадаў Дзяргач. — Пасьля рас-

правімся, цяпер за справу. Дзе астатнія зьняволеныя?

— У гарадзкой турме, — адказаў камісар.

— Добра! Паручык Чадай, вы ў стане рухацца і ўвогуле дзейнічаць?

— Цалкам, пан атаман!

— Так вазьміце з сабой 60 чалавек і вызваліце ўсіх арыштаваных. Хто пажадае далучыцца да нас, прымайце.

— Слухаю, — адазваўся Чадай, зьнікаючы ў дзвярах.

Скончыўшы з ЧК і забраўшы зброю і грошы, што там былі, мы накіраваліся на плошчу, дзе чакалі партызаны з 23 захопленымі камуністамі. Вызваленыя арыштаваныя хутка патлумачылі нам, што гэта за публіка. Тут былі і сьледчыя, і агенты ЧК, і камісары, карацей адборныя сьліўкі мясцовых чырвоных “саноўнікаў”.

З усіх установаў на плошчу былі зьнесеныя справы. У гэтых паперах заключаліся трагедыі людзкіх жыцьцяў. Гаспадары лёсаў гэтых жыцьцяў цяпер стаялі перад намі, дрыжачыя і бязсільныя.

— Што вы скажаце ў сваё апраўданьне? — зьвярнуўся Дзяргач да камісараў.

Ніхто не сказаў ні слова. Усе стаялі і маўчалі, апусьціўшы галовы. Было толькі чуваць, як стукалі ад страху зубы.

— Што, падлюкі, вам няма чаго сказаць? Вы толькі ўмееце забіваць нявінных, накідваючыся на іх цэлай зграяй!

— Хлопцы! — зьвярнуўся Атаман да партызанаў. — Падпаліце гэтыя паперы. У іх кроў чалавечая, пралітая вось гэтымі катамі. А іх расстраляць! — гучна закончыў ён.

Хутка вялізнае полымя ахапіла гэтыя паперы. Яшчэ некалькі хвілін, і побач з попелам спаленых папер ляжалі і дыміліся ва ўласнай крыві тыя, якія іх пісалі.

Было жудасна глядзець на гэта. Але інакш было нельга. Гэтыя людзі першыя зьнішчылі чалавечую літасьць, і страшэнны закон адплаты зваротным ударам зваліўся на іх галаву.

— Хто жадае быць з намі, — перарваў цішыню голас атамана Дзергача, — ідзіце да нас. Атрады прымаюць да сябе байцоў. Але памятайце. Калі сярод вас апынуцца здраднікі, зь імі будзе зроблена так жа, як вось з гэтымі.

З натоўпу выйшлі чалавек 150 жадаючых уступіць у атрады. Тут былі і толькі вызваленыя з турмы, і проста мясцовыя жыхары.

— Клянемся, што будзем верныя! Пойдзем за вамі да апошняга ўздыху! Даволі нацярпеліся! Лепш паміраць шчыра, а не па-сабачы! — чуліся галасы з натоўпу.

— Ня трэба клятваў, — адазваўся Дзяргач. — Дакажыце на

справе. Цяпер у шэрагі і з Богам.

Хвілін праз пятнаццаць горад Слуцк быў пакінуты партызанскімі атрадамі.

## ГІБЕЛЬ КАМАНДЗІРАЎ, ІНТЭРНАВАНЬНЕ ДЗЕРГАЧА, РАШЭНЬНЕ ПРАЦЯГВАЦЬ ПАРТЫЗАНКУ

Шчасьце адвярнулася ад нас. Не пасьпелі забыцца пра гібель Караткевіча, як вярнуліся сямёра партызанаў з атрада Бако, які быў разьбіты, дзякуючы правакацыі.

Гэтыя дзьве няўдачы за адзін месяц моцна паўплывалі на ўсіх нас. За такі кароткі час у нашых шэрагах ня стала 70 чалавек партызанаў, з двума камандзірамі. Было зразумела, што барацьба становіцца безнадзейнай. Пры ўсёй прыхаванай падтрымцы сялянаў, пры ўсёй дапамозе сваіх людзей,якія тайна былі ў чырвоных шэрагах, усё ж такі чакаць не было чаго. Што маглі зрабіць нашыя 500 сьмелых вар’ятаў супраць тоўстых сьценаў вялізнай чырвонай турмы?..

Да ўсіх няшчасьцяў яшчэ дадалася вестка з Галоўнага Штабу, што галоўны атаман Дзяргач са сваімі 300 людзьмі [польскімі ўладамі] інтэрнаваны ў лягер.

“За што Бог карае нас?” — думаў я. — “Няўжо за тое, што мы гінулі без нараканьня за справядлівую, але ўсімі забытую справу? Няўжо і Ён адвярнуўся ад нас? Што ж цяпер рабіць? Пакінуць усё і жыць, як усе людзі, сваім маленькім прыватным жыцьцём? Не і не!” — крычала ўсё ўва мне. — “Паглядзі на гэтых людзей, якія даверылі табе свае жыцьці. Няўжо ты пойдзеш ад іх і станеш, як тыя, што таньчаць у далёкіх парыжскіх дансінгах ці пачытваюць газэты і мірна лаюцца на бальшавікоў?”.

Гэтыя думкі ўлілі ў мяне халодную рашучасьць. Няхай мы вар’яты, няхай нас чакае гібель, а ўсё ж такі нельга пакінуць справу. “Усё жыцьцё ёсьць вар’яцтва”, — прыгадаліся мне мае ж словы, калісьці сказаныя Карчу. Трэба гінуць, але трэба помсьціць.

— Хлопцы! — зьвярнуўся я да партызанаў, патлумачыўшы ім агульнае становішча і перадаўшы паведамленьне з Галоўнага Штабу. — Што нам рабіць? Для сябе я ўжо гэта вырашыў. Але я хачу наперад ведаць, што думаеце вы.

Глухі гоман прайшоў па шэрагах. Пасьля пачуліся выкрыкі:

— Біцца да канца!.. Не саступаць, атаман!.. Мы сваю лінію не кінем!.. Адзін раз нарадзіла маці, адзін раз і паміраць... Прападаць,

дык з гонарам...

— Так значыць, не саступаць, хлопцы?

— Не саступаць! — прагрымеў дружны адказ.

— Я іншага адказу і не чакаў. Значыць, вырашана. Асабіста я буду з вамі да канца. Калі давядзецца паміраць, то памрэм разам.

Якраз у гэты час прыскакала выведка з данясеньнем, што ў вярсьце ад нас рухаецца чырвоны атрад колькасьцю каля 100 чалавек, накіроўваецца да вёскі Вялікая Бароўшчына.

— На коней! Дастаць шаблі! — скамандаваў я. Некалькі хвілін, і 500 партызан, выляцеўшы з узлеску, віхрам ударылі на чырвоных. Націск быў такі імклівы, што чырвоныя не пасьпелі нават пашыхтавацца для сустрэчы атакі, як былі зьмятыя. Яны кінуліся на ўцёкі, але сыходзіць было позна.

За нейкія дзесяць хвілін увесь атрад быў разгромлены. Несьліся толькі стогны напаўпасечаных, залітых крывёю людзей, якія валяліся на зямлі. Гэтыя стогны не кранулі партызанаў. Душа прагла помсты.

*Рурык Пяткоў*

# СПЕЦАПЭРАЦЫІ СУПРАЦЬ “ЛЕСАВІКОЎ” ВА ЎСХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў 1951 ГОДЗЕ

Зьмяшчаем цікавыя ўспаміны вэтэрана МВД СССР, падпалкоўніка ў адстаўцы Рурыка Пяткова, які ў 1950-1952 гг. навучаўся ў спецшколе МГБ у Магілёве, удзельнічаў у спецапэрацыях супраць “лясных братоў”. Восеньню 2014 году іх апублікавала барнаульская газэта *“Алтайская правда”*.*

Успаміны каштоўныя тым, што аўтар піша пра раней невядомыя антыпартызанскія аперацыі ў раёне Шклова, Быхава і Барысава, якія праводзіліся з вясны 1951 году. Дагэтуль лічылася, што ўсе актыўныя лясныя аддзелы ў гэтым рэгіёне былі ліквідаваныя да канца 1940-х ці сышлі ў заходнюю Беларусь. Цікава, што вэтэран прыводзіць нават аўтэнтычную назву “лясных братоў” у тых раёнах: лесавікі. Ну а самае каштоўнае сьведчаньне — гэта аповед пра бункеры, пабудаваныя немцамі, і ў якіх яшчэ ў 1951-м базаваліся групы лесавікоў. Нават запасы, пакінутыя ў 1944-м, не былі цалкам

выкарыстаныя і трапілі ў рукі МГБ.

Рурык Пяткоў сьцьвярджае, што ён і яго калегі ў 1951-1952 гг. далі падпіску пра неразгалошваньне зьвестак аб аперацыях, у якіх яны ўдзельнічалі. "І толькі цяпер я атрымаў магчымасьць паведаміць некаторыя падрабязнасьці", — піша ветэран. Далей ён распавядае пра тое, што ў беларускіх архівах "не знайшлі" дакумэнтаў пра яго ўдзел у барацьбе з лесавікамі ў Беларусі, і гэта вельмі дзіўна. Няўжо сапраўды значная частка архіўных дакумэнтаў пра тыя падзеі адсутнічае і іх можна шукаць толькі ў Расіі? А магчыма, што справа ўсё ў той жа сакрэтнасьці. І праз 60 гадоў яе не зьнялі. Колькі слоў пра аўтара. Рурык Аляксандравіч Пяткоў нарадзіўся ў 1928 годзе ў Барнауле (Алтайскі край Расеі). Ён скончыў Барнаульскі будаўнічы тэхнікум. У 1950-м яго адправілі ў БССР, у спецшколу МГБ у Магілёве. Ён вучыўся і ўдзельнічаў у барацьбе з антысавецкімі ляснымі фармаваньнямі да 1952-га, калі вярнуўся на радзіму. Служыў у МУС у Барнауле, а з 1956-га пачаў працаваць па спецыяльнасьці — будаўніком. З 1972 году і да пенсіі працаваў выкладчыкам у спецшколе МУС (у будучым юрыдычным інстытуце МУС).

---

*Пятков Р. В болотах Белоруссии // Алтайская правда, 2014, 27 лістапада; http://www.ap22.ru/paper/V-bolotah-Belorussii.html

## КУРС — НА ЗАХАД

Вялікая Айчынная вайна скончылася, калі мне было 16 гадоў. У гады ваеннага ліхалецьця прызывалі на службу ў войска з 17 гадоў, і я ўжо меў на руках позву — прадпісаньне зьявіцца на прызыўны пункт 30 траўня. Ну і, як належыць, прыйшоў у Цэнтральны райваенкамат Барнаула да начальніка маёра Сахарава. Узяў ён у мяне гэтую позву, павіншаваў з Перамогай і сказаў, што служба мая сёньня пачалася і сёньня ўжо скончылася. І парваў маю позву. Сказаў, што, калі мне споўніцца 18 гадоў, я буду прызваны на вайсковую службу. Але я тады вучыўся ў будаўнічым тэхнікуме, і мне далі адтэрміноўку да канца вучобы. Вясной 1950 году мяне выклікалі ў аддзел кадраў УМГБ і прапанавалі паступіць на службу ў органы дзяржбясьпекі, у прыватнасьці, на вучобу ў спецшколу МГБ. Я пагадзіўся і ў чэрвені-ліпені 1950-га ўжо быў у Магілёве (Беларусь) і стаў курсантам спецшколы МГБ. Так пачалася мая служба (навучаньне) у спецшколе.

Дзесьці вясной 1951 году нас, курсантаў, сабраў начальнік

вайсковай часткі палкоўнік Камінскі і сказаў, што паступіла тэрміновае паведамленьне з населеных пунктаў Барысава, Быхава і Шклова.

Актывізаваліся вылазкі узброеных бандфармаваньняў з ліку нацыяналістаў і былых здраднікаў, памагатых фашыстаў. Былі таксама бандыты і з Украіны — бандэраўцы. Паведамлялася, што бандыты забівалі старшыняў калгасаў, саўгасаў, актывістаў, камуністаў і камсамольцаў, настаўнікаў, лекараў, былых партызан, гвалцілі жанчын, рабавалі пошты, крамы і т. п. Ня проста забівалі людзей, але і некаторых спальвалі на вогнішчах — увогуле, зьвярынай іх жорсткасьці не было мяжы.

Далей гаварылася, што з нас, курсантаў, павінен быць створаны атрад з 35-40 чалавек і накіраваны на дапамогу мясцовым органам МГБ і МУС. Адбор у гэты атрад павінен быць вельмі дбайным, гэта значыць з ліку фізычна моцных выдатнікаў баявой падрыхтоўкі, якія ўмеюць выдатна валодаць зброяй і г. д.

Трэба сказаць, што асабіста я выдатна валодаў любымі відамі агнястрэльнай зброі — савецкай, нямецкай, аўстрыйскай, італьянскай, ангельскай, а таксама халоднай зброяй (у нас у спецшколе ў зброевым складзе было шмат трафейнай зброі). У перыяд навучаньня акрамя агульнай агнявой падрыхтоўкі я ўдзельнічаў у стралковай секцыі — прымаў удзел у спаборніцтвах — займаў па стральбе прызавыя месцы. Увогуле, я трапіў у склад гэтай групы (або атрада) па барацьбе з бандытамі. У складзе нашага ўзвода таксама было некалькі курсантаў з Алтайскага краю (5-6 чалавек), памятаю толькі Аляксандра Ігнатава, Івана Фокіна. Былі сярод нас латыш Акотс Зіемеліс, Акым Міндубаеў з Казахстана і Аляксандар Якубовіч зь Беларусі. Больш нікога ўжо ня памятаю, бо прайшло ўжо больш за паўстагодзьдзя! Такім чынам, неўзабаве нас адправілі пад Шклоў. Там мы злучыліся з атрадамі войскаў МВД і МГБ. І вось што мне запомнілася.

## БАНДЫЦКІ СХРОН



У адным хутары мясцовая жыхарка прыйшла да нас і паведаміла: яна пайшла ў суседні дом “за агеньчыкам”, то бок, за падпалкай для дроў. Справа ў тым, што ў той час запалак не было ў вёсках. Карысталіся так званым крэсівам — гэта кавалачак каменя крэменю і мэталіч-



ная пласцінка. І з дапамогай гэтых прыстасаваньняў выбівалі іскру на трут, гэта значыць мох або рызьзё. І так здабывалі агонь. Прымітыўна, вядома, але так было. Далей яна паведаміла: у суседнім доме з трубы ішоў дым, значыць, палілі, печ. Але на дзьвярах хаты вісеў замок. Гэта яе насьцярожыла: хтосьці ў хаце ёсьць, калі печ топіцца. Таксама яна сказала, што позна ноччу ў дом заходзілі некалькі чалавек, нейкія не мясцовыя. Нам стала вядома, што ў гэтым хутары нядаўна былі бандыты і, магчыма, дзесьці схаваліся.

Неўзабаве прыйшоў гаспадар дома і пасьля нядоўгага допыту паведаміў, што ў яго ў хаце ёсьць схрон, дзе і хаваюцца бандыты. У яго хворая маці, жонка й дзеці. Бандыты запалохалі яго: прыгразілі, што заб’юць яго і ўсю яго сям’ю, калі ён паведаміць каму-небудзь пра іх. Мясцовы міліцыянт сказаў, што раз у доме ёсьць схрон, то павінен быць і дадатковы, сакрэтны выхад зь яго. І сапраўды, недзе ў 30-40 метрах ад дома ў пералеску гэты выхад быў знойдзены. Там паставілі кулямётчыка і некалькіх байцоў з аўтаматамі.

Зайшоўшы ў дом, гаспадар паказаў нам на замаскаваны люк у падвал. Як толькі быў адкрыты люк, адтуль пачалася стральба. Мы кінулі туды некалькі гранат, і стральба спынілася. Са знойдзенага намі выхаду выскачылі некалькі бандытаў, і мы іх адразу ж зьнішчылі.

Добра запомніўся гэты схрон. Уладкаваны ён быў капітальна і нават камфортна. Пазьней стала вядома, што рабілі яго немцы. Да канца вайны яны яшчэ спадзяваліся на так званы рэванш і рыхтавалі яго для бандытаў зь ліку паліцаяў і іншых здраднікаў. У схроне апынулася шмат агнястрэльнай і іншай зброі, боеприпасаў, прадуктаў харчаваньня, прычым таксама і нямецкага — шакалад, галеты, кансэрвы, шнапс і да т. п. У схроне быў нават маленькі бензінавы рухавік для выпрацоўкі электрычнасьці, праведзены з суседняга калодзежу вадаправод (прычым добра замаскаваны). Стаяла невялікая чыгунная печка з запасам дроў, комін з якой быў па-майстэрску праведзены ў печку, што знаходзілася ў хаце. Увогуле, у такім схроне можна было доўга і нават з камфортам знаходзіцца. Пры ліквідацыі бандфармаваньняў такіх схронаў было выяўлена шмат. Стараліся немцы і іх паслугачы, але дарма.

Распавяду яшчэ аб адным выпадку. Аднойчы, ачышчаючы

хутары ад бандытаў, мы ішлі ланцугом па пералесках і балотах (а іх у Беларусі шмат). І вось я ўбачыў наперадзе палянку, якая здавалася надзейнай, вырашыў перабегчы яе. І адразу трапіў у балота і стаў тануць. Да гэтага часу з жахам памятаю халодную ваду і нейкую пустэчу пад нагамі. Мяне стала засмоктваць. Не памятаю, як я адтуль выбраўся, памятаю, што ляжу на краі балота, а ў руках нейкі корч, магчыма, неяк я за яго схапіўся. Калі б не гэты корч, дык гэтых радкоў зараз вы б не чыталі. Быў я ўвесь мокры, у балотнай гразі. А час ужо пад вечар, і трэба неяк даганяць сваіх. У мяне (як і ва ўсіх) быў компас, пайшоў па ім. Выйшаў да нейкага хутара, узяў аўтамат на напагатове (ён у мяне быў за сьпіной і не патануў у балоце). Каля хутара мяне ўбачыла жанчына і закрычала: “Ратуйте! Лесавік ідзе!” (Лесавікамі там называлі бандытаў).

З хаты выскачылі байцы (бачу, што нашы) і хацелі ўжо ў мяне страляць, я закрычаў, што гэта я — Пяткоў. Дзякуй богу, пачулі! Там ужо была напалена лазня. Усе байцы памыліся, і я адразу палез у цяпло. Век не забуду гэтую парылку! Ну а затым былі далейшыя пошукі бандытаў і іх ліквідацыя. У адной з перастрэлак адзін зь іх кінуў у нас гранату. Бачачы, што ляціць граната, я ўпаў у нейкую лагчынку. Граната ўзарвалася дзесьці недалёка ад мяне, і мне па касцы моцна ўдарылі аскепкі. Я страціў прытомнасьць, потым аказалася — атрымаў кантузію, але відаць, ня вельмі моцную. Паляжаў трохі ў шпіталі, і стала лепш (некаторы час я нічога ня чуў).

Дарэчы, падчас далейшай маёй службы усё было са слыхам ў норме, а вось цяпер, пад старасьць, мабыць, гэтая кантузія гукнулася і я стаў дрэнна чуць. Лекары кажуць, што, магчыма, гэта і так, але зараз ужо дапамагчы нельга. Да канца 1951 году прыбылі ў спецшколу і пачалася наша далейшая служба (вучоба). Калі яна скончылася і нам прысвоілі званьне лейтэнанта дзяржбясьпекі, нас — тых, хто прымаў удзел у ліквідацыі бандфармаваньняў, — запрасілі ў аддзел кадраў, каб мы далі падпіску пра неразгалошваньне зьвестак аб аперацыях, у якіх мы ўдзельнічалі. І толькі цяпер я атрымаў магчымасьць паведаміць некаторыя падрабязнасьці. У ліпені-жніўні 1952 году я прыбыў у Барнаул і паступіў на службу ў УМГБ (у далейшым УКГБ) Алтайскага краю. Працаваў у першым (контрвыведніцкім) аддзеле, які займаўся выкрыцьцём варожай агентуры (а такая была, і яе раскрывалі), а таксама пошукам былых памагатых фашыстаў, якія спрабавалі схавацца.

## УЖО НЕ САКРЭТНАЯ СПРАВА

[...] Калі я сыходзіў на пенсію ў лістападзе 1984 году, мяне запрасіў у аддзел кадраў начальнік М. М. Чугуй і выдаў некаторыя дакумэнты, у тым ліку і тую самую падпіску пра неразгалошваньне сакрэтаў. Ён сказаў, што цяпер гэта ўжо не сакрэт, а папера — мне на памяць. Гэты лісток доўга ў мяне захоўваўся, а потым дзесьці згубіўся. Я тады яшчэ раз уважліва прагледзеў усю маю асабістую справу: нічога пра мае "подзьвігі" у лясах і балотах Беларусі не знайшоў і, вядома, зьдзівіўся. Хоць мне тады гэта і ня трэба было. Успомніў я пра гэта недзе ў дзевяностых гадах, калі прэзыдэнт Ельцын выдаў указ аб тым, што тыя, хто ў 1949-1956 гадах удзельнічаў у барацьбе з нацыяналістычнымі бандфармаваньнямі ва Ўкраіне і ў Беларусі, прыраўноўваюцца да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і падлягаюць ўзнагароджаньню ордэнам Айчыннай вайны II ступені. Прайшоў час, і вось дзесьці ў 1993-1995 гадах я ўсё ж такі вырашыў паспрабаваць пашукаць і, магчыма, знайсьці якія-небудзь дакумэнты пра свой удзел у падзеях 1951 году. Былі сумневы, вядома, бо СССР распаўся і Беларусь цяпер асобная дзяржава. І наўрад ці там хто-небудзь штосьці будзе шукаць для мяне, тым больш пэнсіянера МУС РФ. Усё ж такі тады я напісаў у розныя інстанцыі г. Магілёва (у Дзяржархіў, МУС і г. д.). Падрабязна растлумачыў, хто я і што мне трэба. Доўга адказу не было, ды і чакаць я перастаў. І ўсё ж такі прыйшлі адказы з Дзяржархіву і МУС! Паведамілі, што ў сувязі з мінулым доўгім часам, які прайшоў, ніякіх дакумэнтаў пра тыя падзеі не захавалася, а што тычыцца былой спецшколы МГБ СССР, то яна даўно расфармавана, пра яе нічога невядома. Больш я ніякіх спробаў не рабіў. Ды і ці варта цяпер? Галоўнае, як гаворыцца, было б здароўе.

*Вячаслаў Адамовіч (атаман Дзяргач)*

# “ЦІ ПАЧУЕМ МЫ З ЛЕСУ ЦЁМНАГА ПЕСЬНЮ ВОЛЬНУЮ?”

## МАЛАВЯДОМЫЯ ТЭКСТЫ БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТАМАНА

“БР” неаднойчы вяртаўся да асобы Вячаслава Адамовіча (малодшага, атамана Дзергача), кіраўніка Беларускай сялянскай партыі “Зялёны дуб” у 1920-1930-я гады.* Гэта быў ня толькі ваяр-партызан, кансьпіратар, авантурнік, але і таленавіты літаратар.** На жаль, творы атамана Дзергача яшчэ не сабраныя пад адну вокладку. Таму кожны выяўлены тэкст вельмі каштоўны. У гэтым нумары мы зьмяшчаем шэраг публікацый з віленскай перыёдыкі 1920-х гадоў: літаратурныя творы, публіцыстыка, ліст.

Нагадаем, што дагэтуль невядомы лёс Вячаслава Адамовіча. З пачаткам Другой сусьветнай вайны яго сьляды губляюцца.

---

*І Ш. Што рабіў атаман Дзяргач на Ўкраіне? // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 106-107; ”Зялёны Дуб” і прыпіскі // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2), б. 137-139; Райле О. Як атаман Дзяргач ашукаў нямецкую выведку // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 128-130; Сушко В. Зьявіўся дакумэнтальны фільм пра атамана Дзергача і “Зялёны Дуб” // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 123-124; Шыбіцкі М. Справа паплечніка атамана Дзергача Нікадзіма Костачкі // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 1(12), б. 73-74; Сушко В. Як атаманы Дзяргач і Хмара прадавалі латышам квітанцыю за 500 долараў // Беларускі Рэзыстанс, 2013 № 1(14), б. 172-174.

**Акрамя публікацый у перыёдыцы, Дзяргач выдаў кнігу “*Тыпы Палесься*. Абразкі і легенды” (*Вільня,* 1924).

## МАЛІТВА МАЯ

Каменям цяжкім душыць мне сэрцо, душыць мне грудзі панурае, безпрасьветнае жыцьцё... Хмарамі небо яснае пакрыта, шэрая імгла вісіць над змучанай зямлёй... Ночка ці прыйдзе, ці дзень

пачнецца, усё думка цяжкая, думка сумная не пакідае маёй галавы: што будзе са старонкаю роднаю? што будзе з братамі? што будзе з роднай зямелькай?

Ці разойдуцца хмары, ці ўзойдзе сонейко, ці засьвеціць праменямі яснымі над роднай старонкаю?

Ці пачуем мы зноў з лесу цёмнага песьню вольную аб долі лепшай, аб шчасьці, аб добрым жыцьці?

А мо выпала нам на долю на векі быць забітымі, навекі сядзець у кайданох, навекі не бачыць ні неба яснага, ні лешай долі, ні вольнага жыцьця?

Устань! Схамяніся, старонка родная! Глянь увокал сябе!

Бачыш: полым[я] пажараў вёскі зьядае, гінуць браты, кроў л’ецца ракою...

Чуеш: грукацяць гарматные стрэлы, сакочаць кулямёты, плачуць у вёсках кабеты, дзеўчаты, плачэ ўвесь народ...

Вецяр галіны хістае... Звон хаўтурны нясецца адусюль, адусюль...

Сілы дай нам, Божа! Спосаб дай нам, Божа: Край свой родны бачыць вольным... Прыждаць шчасьця, лепшай долі, супакою, дай нам Божа!

Дзяр — гач

*Jednaść (Вільня), 1921, 19 чэрвеня, № 7. Транслітэрацыя з беларускай лацінкі.*

## БАЛЬШАВІЦКІ ПІРОГ

Беларускі рух за апошнія пяць гадоў пайшоў шпаркім тэмпам і ў сучасны момэнт, ужо вельмі рэдка спаткаем у нас на Бацькаўшчыне чалавека, які-б на запытаньне: “хто ты?” ня даў пэўнага адказу аб сваёй нацыянальнасьці.

Але чым больш Беларускі народ пачынае самаазначацца, тым болей робіцца яго жыцьцё трагічным.

Бо наша Бацькаўшчына, будучы падзелена Рыскім трактатам на дзьве паловы, улівае ў народ некалькі кірункаў палітычнага сьветагляду. Ідзе, гэтак кажучы, канкурэнцыя паміж дзьвюх дзяржаваў, якія стараюцца прыцягнуць сымпатыі Беларускага народу да сябе.

Адна з іх, бачачы, што беларусаў да сябе магчыма прыцягнуць толькі тым, што даць ім магчымасьць пашыраць сваё нацыянальнае адраджэньне ў большым маштабе — дае ім шырокую аўтаномію,



***Выпускнікі Беларускіх пэдагагічных курсаў у Менску, травень 1919 году. Здымак з газэты "Беларускае жыцьцё" (1919, № 11, 31 жніўня). Вячаслаў Адамовіч (малодшы, будучы атаман Дзяргач) таксама скончыў гэтыя курсы і ён можа быць на гэтым здымку. Уважліва ўглядайцеся ў твары хлопцаў, якія стаяць у двух апошніх шэрагах.***

незалежнасьць, як кажуць, на паперы — гэтаю першаю дзяржаваю, угледзеўшаю карысьць для сябе ў выпрабленьні сымпатыі, зьявілася Радавая Расея...

Яшчэ ў 1919, 1920 і 1921 гадох радавая ўлада не дае магчымасьці беларусам вясьці працу свайго адраджэньня, называючы ўсе беларускія нацыянальныя ўстановы контр-рэвалюцыяй, але ось бачачы, што барацьба з беларускім народам ніякай карысьці ня прыносе — хутка мяняе палітыку і пачынае ісьці на спатканьне беларускаму руху.

Беларускія інтылігэнтныя сілы пачынаюць ужо глядзець на бальшавікоў, як на сваіх заступнікаў, запамінаючы (тут маецца на ўвазе: забываючы — **БР**) саўсім, што ідзе гэта нацыянальнае адраджэньне пад строгім кантролем партыі расейскіх бальшавікоў. Толькі ў 1924 годзе расейскія бальшавікі даюць магчымасьць беларусам разьвіваньня свае культуры ў сваей "*Савецкай* Социялістычнай Беларускай Рэспубліцы" і ў гэтым напрамку расейскія бальшавікі пайшлі нават вельмі далёка, яны як-бы адмаўляюцца ад верхавенства, творачы С. С. С. Р.

Але калі мы глыбей заглянем у ўнутранае жыцьцё С. С. Б. Р., дык бачым, што беларускі народ трапіў у хітрыя кайданы, створаныя маскоўскім урадам. Гавары сабе пабеларуску, пішы пабеларуску, вучыся пабеларуску, маеш табе нават і дэкрэты на тваёй роднай мове, але рабі, браце, тое, што я табе прыказваю — вось мэханіка маскоўскага савецкага ўраду.

Дый мала гэтага: ўсе зборы, падаткі, гандаль — усё гэта не зьяўляецца ўласнасьцю Беларускага народу. Усё гэта ў руках маскоўскага ўраду. І ось калі добра разбяромся ўва ўсім гэтым, дык ня дзіва, што зьбіты з панталыку народ беларускі, сам ня ведае, што яму рабіць, куды ісьці і за кім ісьці?

Маняць яго з віду вельмі добрым пірагом, але як пакаштуеш — дык век-бы не глядзеў на пірагі!

Дзяргач

*Грамадзкі голас (Вільня), 1924, 24 жніўня, № 16.*

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Нясецца адаўсюль радасная вестка! Аб гэтым гавора зямля, пяюць птушкі, радасна лес шуміць і сонца праменьні быццам сьмяюцца...

Усё цешыцца, усе пяюць: Хрыстос Уваскрос!...

А чаму-ж у мяне так сумна на душы?

Чаму жаль нейкі сэрца апанаваў? Чаму?..

Гудзяць званы і гук іх у даль лясоў, палёў ідзе, апавяшчаючы ўсім: Хрыстос Уваскрос!...

Скончаны дні-ночы панаваньня!

Сьвет зазь[з]яў усім людзям і зерне згоды ўзыйшло...

Дык бярэце-ж яго, людзі! Хутчэй бярэце! Ня дайце згінуць! Хутчэй палівайце яго вадой жывой, каб прарасло яно!

Гудуць званы! Цешыцца неба і зямля!

А чаму-ж так сумна на душы?

Чаму жудасна робіцца, цяжка? Чаму?

Гэй, спынецеся, людзі, каваць кайданы!

Будаваць муры турмаў! Ліць кроў братоў сваіх! Выкіньце з сэрца злосьць, ночы панаваньне і зьдзек над меншымі братамі!..

Не, не! Забылі людзі слоў Яго завет!

Забылі мукі на крыжы! Ноч далей у сэрцах іх пануе і ня чуюць людзі, як усё кліча да згоды, да супольнае працы, да словаў Яго сьвятых!..



Хрыстос Уваскрос!

Несецца адаўсюль радасная вестка! Аб гэтым гавора зямля, пяюць птушкі, радасна лес шуміць і сонца праменьні быццам сьмяюцца...

Усё цешыцца, ўсе пяюць: „Хрыстос Уваскрос!...

А чаму-ж у мяне так сумна на душы?

Чаму жаль нейкі сэрца апанаваў? Чаму?...

Гудзяць званы і гук іх у даль лясоў, палёў ідзе, апавяшчаючы ўсім: Хрыстос Уваскрос!...

Скончаны дні-ночы панаваньня!

Сьвет заліў усім людзям і зерне згоды ўзыйшло...

Дык беражэце-ж яго, людзі! Хутчэй беражэце! Ня дайце згінуць! Хутчэй палівайце яго вадой жывой, каб прарасло яно!

Гудуць званы! Цешыцца неба і зямля!

А чаму-ж так сумна на душы?

Чаму жудасна робіцца, цяжка? Чаму?

Гэй, спыняцеся, людзі, кавацъ кайданы!

Будаваць муры турмаў! Ліць кроў братоў сваіх! Выкіньце з сэрца злосьць, ночы панаваньне і зьдзек над меншымі братамі!...

Не, не! забылі людзі слоў Яго завет!

Забылі мукі на крыжы! Ноч далей у сэрцах іх пануе і ня чуюць людзі, як усё кліча да згоды, да супольнае працы, да словаў Яго сьвятых!...

Гудуць званы! Цешыцца неба і зямля! І ўсё гавора: Уваскрос Хрыстос!...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Стыне кроў, мацнеюць краты, зьвіняць кайданы...

Плача сэрца, плача Яго душа, і з вачэй сьвятых ізноў льюцца на зямлю Яго сьлёзы... Яго забыты словы:

«Мір вам, людзі!...»

Дзяргач.

Гудуць званы! Цешыцца неба і зямля! І ўсё гавора: Уваскрос Хрыстос!..

..............

Стыне кроў, мацнеюць краты, зьвіняць кайданы...

Плача сэрца, плача Яго душа, і з вачэй сьвятых ізноў льюцца на зямлю Яго сьлёзы... Яго забыты словы:

“Мір вам, людзі!..”.

Дзяргач

*Грамадзкі голас, 1925, 19 красавіка, № 18 (72).*

***

Шаноўны Пане Рэдактар!

Дзеля таго, што сярод беларускага грамадзянства ходзяць чуткі, быццам я вяду супольную працу з так званай “Беларускай тымча-

совай радай" і п[анам] дохтарам Паўлюкевічам* і дапамагаю яму ў яго "асабістай працы", дык не адмоўце ў радкох Вашае паважанае газэты надрукаваць маю заяву.

Гэтым маю гонар заявіць усяму Беларускаму Грамадзянству, што я ня толькі нічога супольнага ня маю ні з "тымчасовай радай", ні з п. дохтарам Паўлюкевічам, а, наадварот, лічу, што ўся "праца" паноў з "Рады" зьяўляецца гнойным валдыром на нашай Беларускай Ніве і ці раней, ці пазьней гэты валдыр згіне! Бо "паны беларусы" з "рады" ужо добра ведамы ўсяму беларускаму грамадзянству і хіба-ж толькі зусім сьляпы можа мець дачыненьне з падобнымі "беларусамі з рады".

З пашанай **Дзяргач**.

19 лістапада 1925 года.
Вільна, Завулак Сьнежны
буд. 6, пак. 5.

*Беларуская ніва (Вільня), 1925, № 3, 25 лістапада.*

*Арсень Паўлюкевіч (1889 — 1941) — беларускі палітычны дзяяч, удзельнік Слуцкага збройнага чыну 1920 году. У сярэдзіне 1920-х у Вільні кіраваў прапольскай арганізацыяй "Часовая беларуская рада".

*Ахрэм Булевіч*

# ПЕРСПЕКТЫВЫ Б. Н.

*Рэдакцыя "БР" зьмяшчае публіцыстычны артыкул, які атрымала ад аднаго з чытачоў, які схаваўся пад псэўданімам "Ахрэм Булевіч". Тэкст прысьвечаны Беларусі сёньняшняй і будучай, пэрспэктывам "б. н." — беларускага нацыяналізму. Нам імпануе сьвежы погляд аўтара на старыя праблемы. Разам з тым Рэдакцыя не падзяляе ўсе тэзы, якія ён выклаў.*

*Артыкул друкуецца правапісам арыгіналу.*

Беларусь жыве і будзе жыць. І не трэба ліць слёзы, што яна

гіне, курчыцца ў агоніі. Гэта толькі фантазіі некаторых “прыхільнікаў беларушчыны”, якім “баліць сэрца за яе лёс”. Людзі стварылі сабе нейкі ўяўны свет і жывуць у ім, часта нічога не робячы для Беларусі рэальнай. Але гэта толькі праблемы згаданых асобаў і тых медыяў, якія рэгулярна транслююць бясконцы “плач”.

Ёсць Беларусь іншая, якая працуе і жыве нармальным жыццём: хтосьці заможным, хтосьці ледзьве дацягвае да заробку/пенсіі. Але большасць людзей далёкія ад беларушчыны, нацыянальнай ідэі, а тым больш ад нацыянальнага руху. Беларусь ужо нашмат больш рускамоўная, чым была ў першыя гады аднаўлення незалежнасці. Гэта рэаліі, з якімі трэба лічыцца, якія робяць неэфектыўнымі ранейшыя метады працы з людзьмі.

Адроджаная напрыканцы XX стагоддзя беларуская дзяржаўнасць умацоўваецца з кожным годам незалежнасці. Праўда, пагрозы нікуды не зніклі і не змяніліся — эканоміка сёння найважнейшая за ўсё. Ад яе залежыць выжыванне Беларусі як незалежнай краіны, пра што пастаянна кажуць дзяржаўныя асобы. Шкада, што іх чуюць далёка не ўсе.

Свабода — гэта тое, чаго так не хапае ў нашай краіне. Страх і рабская праца паралізавалі волю мільёнаў. Толькі невялікая частка народу супрацiўляецца і спрабуе адстаяць свае правы. Але многія гэтыя праявы паралізуюцца ў самым зародку, у тым ліку з дапамогай розных імітатараў ад “апазіцыі”. Нямала маладых, смелых, перспектыўных ужо выехалі за мяжу, многія з іх страчаныя для Бацькаўшчыны назаўсёды.

Нялёгкае жыццё пачатку XXI стагоддзя прымушае людзей думаць найперш пра сябе, дабрабыт сваёй сям’і, толькі адзінкі задумваюцца на гэтым фоне яшчэ і пра будучыню Беларусі, пра тое, куды яна крочыць і якой яна будзе. Таму не трэба спадзявацца на тое, што ў выпадку пагрозы страты незалежнасці заўтра на вуліцы і плошчы выйдуць мільёны. На сённяшні дзень уся надзея толькі на ўладу, на яе прагу да выжывання, захавання ранейшых заваёваў. Толькі яна здольная мабілізаваць усе наяўныя рэсурсы ў крытычны момант і ўтрымаць Беларусь.

Гаворачы пра ўладу, з сумам мусім канстатаваць, што ўсё завязанае на аднаго чалавека. Фактычна ад яго волі, здольнасцяў, жыцця залежыць тое, ці будзе Беларусь і надалей незалежнай дзяржавай. У будучым сістэма зменіцца, яна не можа доўга існаваць у цяперашнім выглядзе. Але ў бліжэйшыя гады давядзецца спадзявацца, што яна не дасць збояў.




bymedia.net

***

Няўдалыя вызваленчыя паўстанні, якія ўздымала нацыянальная эліта супраць расійскай акупацыі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, выкасілі найбольш актыўных, здольных, адукаваных. Назапашаны патэнцыял быў скарыстаны ўхаластую, што адкінула беларускі рух далёка назад ды ўзмацніла рэпрэсіўныя меры супраць яго з боку расійскага царызму. Вельмі трапна напісала ў сваіх успамінах Ларыса Геніюш: “На жэсты мы шкадавалі крыві беларускай”. У XIX стагоддзі такой пазіцыі трымаліся адзінкі, многія рваліся да барацьбы, да найхутчэйшага вызвалення. Тым больш, да гэтага падштурхоўвалі больш моцныя суседзі. У выніку, цяпер у многіх кутках Беларусі актывісты нацыянальнага руху займаюцца аднаўленнем/ушанаваннем пахаванняў паўстанцаў. Ад рэальнай жа палітыкі ўхіліліся многія, спасылаючыся на неспрыяльныя ўмовы, апатыю ды на матэрыяльныя цяжкасці...

Задачай беларускіх нацыяналістаў канца XIX — пачатку XX стагоддзяў было пашырэнне ў народзе беларускай нацыянальнай свядомасці (а ў той час, нагадаем, Беларусь была пад акупацыяй Расійскай імперыі). На гэта былі кінутыя тады ўсе наяўныя невялікія сілы, якія, аднак, хутка раслі. Наступным крокам было пашырэнне і ўзмацненне беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ды пастаноўка пытання пра аўтаномію, а далей — пра незалежнасць.

Галоўнай крыніцай папаўнення беларускага руху ў той час было сялянства. З народных гушчаў выйшла нямала выдатных дзеячоў. Наша эліта была спаланізаваная ці зрусіфікаваная. Толькі

адзінкі з магнатаў (такія, як Раман Скірмунт, княгіня Магдалена Радзівіл) дапамагалі фінансава нацыянальнаму руху, альбо і бралі ў ім удзел. Большую падтрымку аказала частка беларускай шляхты — нямала яе прадстаўнікоў узялі актыўны ўдзел у праекце "Беларуская Народная Рэспубліка".

Ва ўмовах бальшавіцкага генацыду беларускія нацыяналісты арганізоўвалі рух Супраціўлення, які быў патоплены сталінскімі катамі ў крыві. Нават ва ўмовах насаджэння ў народзе татальнага страху знаходзіліся героі, якія вялі барацьбу. Іх ахвярнасць не дала затухнуць агню беларускага нацыяналізму. Ён гарэў і на землях Заходняй Беларусі, якія пражылі 20 гадоў польскай акупацыі, а пасля спазналі бальшавіцкі тэрор.

Сапраўднай трагедыяй стала Другая сусветная вайна. Беларусы апынуліся па розныя франты, сталі пад чужыя сцягі. Толькі частка беларускіх нацыяналістаў у тых умовах не пайшла на калабарацыю з акупантамі, а пралівалі кроў за вольную і незалежную Беларусь. Яны спрабавалі знайсці "трэці шлях", выступалі і супраць нацысцкай Нямеччыны, і супраць бальшавіцкага СССР. Лідарам гэтага руху быў ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, забіты нацыстамі ў снежні 1942 года.

У паваенны час беларускія незалежніцкія сілы працягвалі змаганне на Бацькаўшчыне: у антысавецкім падполлі, у партызанскім руху. Многія з іх арыентаваліся на ЗША, Англію, спадзяваліся на новую вайну і "вызваленчы паход заходніх дэмакратыяў". Але гэта былі толькі мроі. Да сярэдзіны 1950-х савецкія сілавыя структуры здолелі ліквідаваць ачагі Супраціўлення ў Беларусі. Тыя, хто выжыў, апынуліся альбо ў зняволенні, альбо затаіліся, не выяўленыя, альбо сышлі ў Польшчу і далей, на Захад.

Канспірацыя 1960-1980-х у Беларусі была досыць кволай. Значная частка ацалелай нацыянальнай эліты ў 1944-м выехала з краіны, іншыя былі заангажаваныя ў беларускі паваенны ўзброены Супраціў, павязаны з Захадам, ды пасля баяліся выкрыцця гэтай сувязі, частка актывістаў пасля вяртання з савецкіх канцлагераў не праводзілі ніякай нацыянальнай працы. Аднак адзінкі здолелі захаваць традыцыі вызваленчага руху, перадаць свае веды і досвед больш маладым пакаленням змагароў. Найвышэйшай кропкай уздыму дзейнасці беларускіх нацыяналістаў быў перапалом 1980-х — 1990-х гадоў. Гэта час адкрыцця праўды пра Курапаты і генацыд, час стварэння Беларускага Народнага Фронту і самае галоўнае — час аднаўлення незалежнасці Беларусі ў жніўні 1991-

га, вяртанне нацыянальнай сімволікі.

Аднак у спрыяльны час 1991-1994 гадоў нацыянальнаму руху не хапіла арганізаванасці, згуртаванасці, здольных і адважных палітыкаў, значнай фінансавай базы. Дробныя паразы скончыліся катастрофай 1994-1995 гадоў. У наступныя гады рабіліся спробы перагрупоўкі сілаў, але яны мелі характар хутчэй самаабароны, рэакцыі на дзеянні афіцыйнага Мінску і Масквы, якая па-ранейшаму ўпэўненая ў адсутнасці праблемаў на "беларускім фронце", у адрозненне ад фронту "ўкраінскага".

***

Беларускія нацыяналісты сёння мусяць працаваць дзеля заўтрашняга дня. Нават цяжка ўявіць, якія выпрабаванні і выклікі могуць чакаць нашую Бацькаўшчыну ў будучыні. І зусім магчыма, што якраз патэнцыял нацыяналістычных сілаў будзе запатрабаваны праз 10, 20 ці 30 гадоў. Але ці гатовыя яны будуць да гэтага?

Сённяшнія неспрыяльныя ўмовы пахавалі ўсе здаровыя спробы арганізаванай дзейнасці. Выжыць маглі б хіба падкантрольныя структуры, але і пра іх ужо не чуваць. Верагодна, была пастаўленая задача-мінімум — "зачысьціць" усе праявы дзейнасці і згадкі пра нацыяналізм, нацыяналістычны рух, нацыю. Задача-максімум — перарваць традыцыю, тыя ледзьве заўважныя повязі, якія лучаць нас з нашымі папярэднікамі з XX стагоддзя. Хтосьці мяркуе, што ў будучыні аднавіцца яна ўжо не зможа, а значыць беларускі нацыяналізм ужо не будзе ўяўляць небяспекі для нашых ворагаў.

Адсутнасць агульнарэспубліканскіх і рэгіянальных арганізацый — гэта не самае страшнае. Праблема ў людзях, тых, хто яшчэ ў 1990-х зрабіў выбар на карысць беларускага нацыяналізму. Частка іх, як паказаў час, не мелі моцнага стрыжню, не шчыра ўспрынялі ідэалагічныя пастулаты, альбо проста расчараваліся. Яны, як пясок, рассыпаліся ў моры абыякавых і заклапочаных толькі сваімі праблемамі людзей. І ў гэтым не толькі іх віна. Тут бяда нашага нацыяналістычнага руху, які ледзьве падтрымлівае традыцыю, не мае моцнага цэнтру (найперш, ідэалагічнага, маральнага) і знакавых асобаў. Рух то выбухае, то знікае на наступныя дзесяцігоддзі, амаль не праяўляючы актыўнасці. А агонь трэба падтрымліваць увесь час, нельга, каб ён затухаў. Паходні павінны гарэць, няхай іх пакуль і пабачаць нямногія...

Тыя адзінкі, якія не збеглі з Беларусі, якія засталіся жыць і працаваць на роднай зямлі, якія засталіся верныя ідэалам — гэта




bymedia.net

тая надзея, якая саграваеe нашыя сэрцы. Гэтыя людзі гадуюць і выхоўваюць сваіх дзяцей, па меры магчымасці, робяць беларускую справу на самых розных дзялянках. Яны не адчуваюць еднасці, бо повязі занадта слабыя, альбо адсутнічаюць увогуле. Але ўсіх іх аб'ядноўвае адно — любоў да Беларусі, да яе гісторыі і культуры, пашана да нашых продкаў і зробленага імі, клопат пра будучыню нашай краіны.

Менавіта гэтыя людзі і захоўваюць традыцыю. Яны перададуць яе будучым пакаленням, і планы нашых ворагаў не будуць рэалізаваныя.

***

Яшчэ раз падкрэслім: Беларусь мяняецца і мяняецца не ў той бок, як хацелася б нам. Цяпер гэта пераважна рускамоўная краіна, моладзь якой не ведае часоў савецкай акупацыі, а толькі рэаліі Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. У часы глабалізацыі, інтэрнэту з сацыяльнымі сеткамі, мабільнай сувязі “культурна-інфармацыйны” ўплыў нашых усходніх суседзяў узмацняецца да максімальнага значэння. Рэсурсаў, каб весці контргульню, проста няма. У такой сітуацыі не варта адчайвацца і апускаць рукі, трэба змагацца за моладзь у новых умовах, новымі метадамі.

Прапаганда, асветніцтва на рускай мове мусіць стаць важным складнікам дзейнасці, але пры абавязковай прысутнасці беларускамоўнай альтэрнатывы. Адзначым, што праца такая ўжо вядзецца і рознымі сіламі. Магчыма, у некаторых выпадках — у якасьці эксперыменту, як спроба заняць нішу. Час пакажа.

Ні ў якім разе нельга працягваць заставацца ў беларускамоўным "гета", якое з кожным годам памяншаецца. Толькі актыўныя контрзахады, крэатыўныя хады дапамогуць у перспектыве пераламіць сітуацыю, стварыць базу для папаўнення нацыяналістычнага руху свежымі сіламі. Няхай ён і будзе мець новае аблічча, але гэта не павінна палохаць. Стары "сектанцкі" імідж варта пакінуць гісторыі. Новы зможа стварыць моладзь і ёй у гэтым трэба будзе дапамагаць усімі сіламі.

***

У гістарычнай перспектыве 20-гадовая дзейнасць Аляксандра Лукашэнкі будзе ацэненая ў пэўнай ступені станоўча. Будзе адзначаная яго роля ў адбудове незалежнай Беларусі, мудрая "ўсходняя палітыка" — шматгадовыя гульні з Расіяй дазвалялі атрымліваць значныя датацыі для эканомікі, а значыць падтрымлівалі ўзровень жыцця беларусаў. Палітычныя рэпрэсіі, якія закранулі тысячы людзей, якія зрабілі немагчымымі змены ў краіне ў 1996-м і ў наступныя гады — чорная пляма. Аднак на яе нашы нашчадкі будуць глядзець інакш. Гісторыя, як вядома, пішацца пераможцамі.

На працягу стагоддзяў беларускія нацыяналісты лічылі самым галоўным ворагам Беларусі Расію. Супраць яе амаль кожнае пакаленне ўздымала вызваленчыя паўстанні, змагаючыся за незалежнасць ад Масквы. І сёння Расія застаецца патэнцыйным агрэсарам. Аднак у новых рэаліях стратэгія і тактыка Лукашэнкі з'яўляецца слушнай — з Расіяй трэба сябраваць, з ёй трэба гуляць, выкарыстоўваць яе магутнасць, уплыў на карысць Беларусі.

Гэта рызыка. Але гэта адзін з варыянтаў актыўнай абароны, варыянт выжывання, калі мы застаемся чужымі для Захаду і сам на сам з Усходам.

Тыя, хто сядзіць і чакае, што "Расія разваліцца" і самі сабой вырашацца многія праблемы — наіўныя фантазёры. У бліжэйшай перспектыве ніякіх трансфармацый у Расіі не будзе, у далейшай — магчымыя змены істотна не зменяць сутнасці нашага ўсходняга суседа/суседзяў. Беларусам давядзецца з гэтым жыць. І не варта спрыяць паўтарэнню трагічных старонак мінулага, калі войны з Масквой спусташалі нашу краіну.

Маючы ў саюзніках Расію, наіўна спадзявацца, што яна паспрыяе эканамічнаму ўзмацненню Беларусі. Але ўсходняя падтрымка ў цяжкія часы не будзе лішняй. Галоўнае тут не трапіць у пастку абяцанняў/абавязацельстваў, якія б паставілі пад пагрозу незалежнасць нашай дзяржавы. У палітычным сэнсе ў пэўных дзеячоў/палітычных сілаў можа ўзнікнуць спакуса вырашэння пэўных тэрытарыяльных праблемаў пры расійскай падтрымцы. Беларускім нацыяналістам трэба катэгарычна супраціўляцца гэтаму. Усе абяцанні Масквы “вырашыць праблему Вільні” (альбо іншага горада/рэгіёна) нязменна будуць мецць правакацыйныя мэты.

Аслабленая Масквой Украіна надоўга апынецца ў найцяжэйшым крызісе ды перастане быць пагрозай для Беларусі з кропкі гледжання тэрытарыяльных прэтэнзій. Застанецца толькі кантраляваць наплыў украінцаў-уцекачоў на Палессе.

Атрымліваецца, што цяпер адбываецца і будзе працягвацца ў бліжэйшае дзесяцігоддзе працэс накаплення сілаў. Беларускія нацыяналісты не павінны быць ворагамі беларускай дзяржавы, нягледзячы на адносіны да правячай эліты і яе дзейнасці. Нацыяналісты мусяць мацаваць дзяржаву, прыносіць беларускі дух, беларускае слова ў адукацыю, войска, праваахоўныя структуры, дзяржаўныя ўстановы. Трэба знайсці сваю легальную нішу/нішы ды ахвярна працаваць на будучыню, засноўваючы новыя асяродкі ды пашыраючы ўплывы.

***

Пакуль гарыць агонь у нашых сэрцах (а ён, мы верым, не патухне і ў сэрцах нашчадкаў), датуль будзе генераваць здаровыя сілы ў народзе беларускі нацыяналізм. Выклікаць шчырыя і чыстыя пачуцці да роднай зямлі, да нашай Бацькаўшчыны. Нацыяналізм — гэта стрыжань, на якім трымаецца народны арганізм. Ён — апошні рубеж абароны.

Студзень 2014 г.

# ПАДАРУНАК ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА ВАЙСКОЎЦА

*Ляхор В. Военная символика белорусов. Знамена и мундиры. — Минск: Харвест, 2014. 224 б., іл.*




Даўно не даводзілася бачыць такой якасна зробленай кнігі: як па зьмесьце, так і па ілюстрацыйным матэрыяле. Віктар Ляхор — ці не найлепшы спецыяліст па беларускай вайсковай сімволіцы, атрыбутыцы, выдатны мастак. У сваёй кнізе ён сабраў усё, што было назапашана за доўгія гады дасьледчыцкай і творчай працы. Зафіксаваў усе важныя факты, пачынаючы ад сівой даўніны і канчаючы часамі незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Зьмена дзяржаўнай сімволікі ў 1995 годзе зьнішчыла тыя парасткі, што зьявіліся ў беларускім войску за некалькі гадоў: там ужо былі прыжыліся бел-чырвона-белы сьцяг і “Пагоня”. В. Ляхор даволі сьмела піша пра гэтыя праблемы. Падкрэсьлівае, што цяпер сімволіка беларускага войска — гэта ўдасканаленая савецкая, якая бярэ пачатак толькі ў 1918-м годзе.

Спекуляцыі на тэме калабарацыі часоў апошняй вайны (бел-чырвона-белага сцяга і герба “Пагоня”) шкодныя, піша Ляхор ды нагадвае, што ў Курапатах у беларусаў стралялі людзі з чырвонымі зоркамі. “Якой будзе вайсковая сімволіка ў будучыні — пакажа час”, — робіць выснову аўтар. Сапраўды, рана ці позна беларуская дзяржава, а значыць і беларускае войска, вернецца да старажытнай нацыянальнай сімволікі.

Ляхор падрабязна распавядае пра сімволіку, уніформу, рангі, знакі адрозьненьня беларускіх фармацый часоў БНР (у тым ліку слуцкіх паўстанцаў, балахоўцаў), Чырвонай Арміі, Беларускай Краёвай Абароны, спецбатальёна “Дальвіц”. Некалькі бачын адведзена Саюзу беларускай моладзі. Усё гэта ілюструецца шматлікімі малюнкамі, у тым ліку і вядомых беларускіх дзеячоў.

Цікавы разьдзел і пра беларускае войска часоў незалежнай Рэспублікі Беларусь. Аўтар знаёміць чытача таксама і з праекта-

мі, якія не былі рэалізаваныя, але ў будучыні яшчэ могуць быць запатрабаваныя.

Зьдзіўляе толькі, што Віктар Ляхор ужывае ў сваёй кнізе аднachасова словы “Беларусь” і *“Белоруссия”*. Гэта бяда, савецкая каланіянальная спадчына, хвароба, якую, напэўна, вылечыць толькі час і зьмена пакаленьняў.

*Алег Падгайчык*

# ЧАРГОВЫЯ ЗБОРНІКІ ДАКУМЭНТАЎ І ДАСЬЛЕДАВАНЬНЯЎ ПРА ЗАХОДНЮЮ БЕЛАРУСЬ




*Рижский мир в судьбе белорусского народа. 1921 — 1953 гг. Кн. 1. / Национальная академия наук Беларуси, Институт истории. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 593 б.*

*Рижский мир в судьбе белорусского народа. 1921 — 1953 гг. Кн. 2. / Национальная академия наук Беларуси, Институт истории. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 335 б.*




Беларускія гісторыкі за часы незалежнасьці зрабілі нямала ў дасьледаваньні міжваеннай Заходняй Беларусі. Зьявіліся шматлікія публікацыі ў навуковых зборніках, манаграфіі, зборнікі дакумэнтаў. Да гэтага часу самым значным быў двухтомнік, у які ўвайшлі дакумэнты ад 1939-га да 1956 году.* Двухтомнік, які разглядаецца намі, ахоплівае пэрыяд ад 1921-га да 1953 году. Больш таго, гэта ня толькі і ня столькі зборнік дакумэнтаў, паколькі асноўны аб’ём складае дасьледаваньне, падрыхтаванае беларускімі гісторыкамі. Да кожнага разьдзелу і дадаюцца дакумэнты, многія зь якіх друкуюцца ўпершыню.

Аўтары-ўкладальнікі пішуць: “У сучасных умовах найважнейшай задачай айчыннай гістарычнай навукі зьяўляецца выпрацоўка і аргументаванае адстойваньне ўласнага, беларускага погляду на гісторыю”. У пэўным сэнсе гэта ў іх атрымалася. І зразумела чаму: пішам не пра палітыку ўсходняга суседа, а пра палякаў, а

зь імі можна не цырымоніцца. Таму праўдзіва паказаная польская палітыка міжваеннага часу і да чаго яна прывяла: “Палітыка асіміляцыі, зьнішчэньне духоўных асноваў народу, якое праводзілі польскія ўлады ўзарвалі грамадзтва Заходняй Беларусі”. У той жа час аўтары адрынулі ўсе спробы параўнаць польскую і савецкую акупацыі. Увогуле, слова “акупацыя” па-за законам. У цяперашніх рэаліях інакш быць і ня можа.

У адрозьненьне ад манаграфій і зборнікаў дакумэнтаў, якія зьяўляліся ў савецкія часы, у “Рыжскім міры...” нямала ўвагі надаецца беларускім нацыянальным партыям і арганізацыям, пра якія раней альбо падавалі інфармацыю мінімальна (і абавязкова негатыўна), альбо і ўвогуле маўчалі. Цяперашні пасыл — за правы беларусаў змагаліся шырокія колы — “ад камуністаў да нацыянал-дэмакратаў”. Нават пра прапольскія беларускія арганізацыі стараюцца пісаць аб’ектыўна.

Ёсьць і дзіўныя памылкі. У першым томе зьмешчанае фота атамана Вячаслава Разумовіча (“Хмара”), але пад ім бачым наступны подпіс: *“Один из руководителей (известен по кличке “Чёрт”) белорусского партизанского движения против польских властей в регионе Беловежской пущи в начале 1920-х годов”* (б. 395). Гэта паказвае, што не ўсе тэмы пакуль глыбока вывучаныя. Згадваюць аўтары пра падпольнае выданьне “Беларускі партызан”, якое выходзіла ў 1922 годзе. Спасылаюцца на № 2-3, на бачыны 34-35 (б. 395)! Выходзіць, што гэтыя дасьледчыкі не трымалі ў руках такога выданьня, інакш ведалі б, што мела яно нашмат меншы аб’ём.

У першым томе зьмешчаная рускамоўная праграма Беларускага народнага аб’яднаньня ад 1936 году (б. 443-446). Пра тое, што гэта пераклад з беларускай — ні слова (а ў некаторых іншых выпадках такая пазнака ёсьць). Спасылка пададзена на газэту “Беларуская крыніца” ад 24 студзеня 1936-га. Можна падумаць, што яна там была надрукаваная на рускай мове. Нібыта, дробяць, але непрыемна.

Скразная тэма “Рыжскага міру...” — гэта ўзаемаадносіны беларусаў і палякаў. Падрабязна і дэталёва разьбіраецца жыцьцё Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй, пад “першымі саветамі”, больш схематычна — пад нямецкай акупацыяй і ў паваенны час. Аўтары пішуць пра польскае падпольле і партызанскі рух ад 1939-га, пра тое, як зь імі змагаліся савецкія карныя ворганы. Упершыню давялося сустрэць грунтоўны нарыс пра тое, як у 1943-1944 гадах шматлікія спецгрупы савецкіх спецслужбаў зьбіралі інфармацыю пра польскую канспірацыю, вербавалі там людзей, рыхтуючы

зьнішчэньне падпольных структураў пасьля выгнаньня немцаў.

Дакумэнты пра барацьбу з АК і постакаўскімі структурамі падабраныя так (а многія зь іх паходзяць з архіваў КДБ), што ў іх практычна няма згадак пра беларускія структуры, няма інфармацыі пра кантакты беларускіх і польскіх канспіратараў. Толькі ў дакладзе начальніка Гарадзенскага абласнога ўпраўленьня ўнутраных спраў “аб барацьбе з нацыяналістычным падпольлем і ўзброенымі бандамі” ад 26 красавіка 1953 г. чытаем: “В результате нанесенного оперативного удара органами МВД по польскому, **белорусскому** нацподполью и его вооруженным бандам...” (б. 331). Такім чынам, дакумэнты пра беларускае падпольле і партызанскі рух ёсьць, проста іх не даюць у такія зборнікі. Праўда, укладальнікі “Рыжскага міру...” зрабілі адзін пракол. Яны зьмясьцілі ў другім томе дакумэнт з архіву КДБ пра ліквідацыю ў 1950 годзе партызанскай групы Шыдлоўскага-Мятліцкага. Не была яна польскай. А пра Мятліцкага вядома, што ён быў беларускім нацыяналістам.**

У кнігах даволі шмат ілюстрацый. Шкада, што нямала здымкаў пры друку атрымаліся неякаснымі. А цікавыя архіўныя дакумэнты пададзеныя так, што іх вывучаць трэба з дапамогай лупы...

*Канстанцін Самсонаў*

---

*”Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...”. Верасень 1939 г. — 1956 г.: дакументы і матэрыялы: у 2 кн. — Мінск, 2009.*

***Пра гэты сюжэт гл. у рубрыцы “Паведамленьні”.*

# ПРА РАДУ БНР І ЯЕ КІРАЎНІКОЎ

*Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы /Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 648 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 22).*

*Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакументы /Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 300 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 23).*

Маем два цікавыя тамы дакумэнтаў пра паваенную дзейнасьць на эміграцыі Рады БНР. Безумоўна, падзея. Для дасьледчыкаў, бо







для масавага чытача падобныя кнігі малацікавыя, паколькі перагружаныя пратаколамі, лістамі, цытатамі... Ды і наклад такі, што не ўсе зацікаўленыя асобы набудуць тамы: калі першага выйшлі 300 асобнікаў, дык другога толькі 200.

Чытаючы пратаколы, лісты, у чарговы раз пераконваешся, наколькі кволай была палітычная дзейнасьць беларускай эміграцыі пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны. Пакуль яшчэ была вера ў пачатак "гарачага" канфлікту паміж Захадам і СССР, а значыць у вызваленьне Беларусі і вяртаньне на Радзіму, было колькі тысяч актыўных людзей. У другой палове 1950-х і ў наступныя гады ўжо толькі адна-дзьве сотні. Многія пачалі займацца выключна сваім жыцьцём, адыйшоўшы ад грамадзкага. Да таго ж хапала сварак, расколаў. Той жа старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык не цырымоніўся з "апазыцыянерамі", ініцыяваў іх выключэньне, зьмяншаючы і так малы актыў "радных".

Супярэчлівыя пачуцьці адчуваеш пасьля прачытаньня дакумэнтаў, лістоў Абрамчыка ці Жук-Грышкевіча (старшыні Рады БНР у 1971-1982 гг.). Не такіх людзей хацелася б бачыць у якасьці кіраўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі. Яны выконвалі свае функцыі, часам няблага, але відавочна, што не былі лідарамі, дасьведчанымі палітыкамі, асобамі, якія маглі б аб’яднаць шырэйшыя эміграцыйныя колы. Мікола Абрамчык цягнуў значны аб’ём "чарнавой" працы — памочнікаў было малавата. Да пачатку 1950-х яшчэ былі гульні ва "ўрад БНР", але калі міністраў і ўдавалася набраць, дык працавалі рэальна толькі адзінкі.

Укладальнікі не змаглі да канца разгадаць таямніцу так званай "нелегальнай дзейнасьці" Ураду і Рады БНР у 1946-1947 гадах. Яны пішуць, што *"ў сакавіку 1946 г. адбылося фармаванне пашыранага ўраду БНР на чале з Міколам Абрамчыкам, хоць ніякіх звестак пра яго склад не знойдзена"*.

Яны не заўважылі публікацыі Ўладзімера Снапкоўскага, які пісаў: *"У сакавіку 1946 года М. Абрамчык склікаў у Рэгензбургу сход актывістаў беларускай палітычнай эміграцыі, на якім было*

*прынята да ведама завяшчанне В. Захаркі аб перадачы паўнамоцтваў М. Абрамчыку, папоўнена Рада і выбраны ўрад БНР, старшынёй якога таксама стаў М. Абрамчык*" (Снапкоўскі Ул. Беларуская палітычная эміграцыя (1945 — 1990 гг.) // Полымя, 1997, № 2, б. 203-204).

Н. Гардзіенка і Л. Юрэвіч дзівяцца, чаму сэсія Рады БНР у чэрвені 1948-га лічылася 3-й, паколькі вядома, што адзіная папярэдняя прайшла ў сьнежні 1947 году. Ул. Снапкоўскі гэта тлумачыць: сход сакавіка 1946-га *"паклаў пачатак правядзенню сесій Рады БНР".* Атрымліваецца, што тады і прайшла 1-я сэсія. Таму назва першай кнігі не зусім дакладная, бо больш лягічна было б замяніць 1947-ы год 1946-м.

Адным з найважнейшых накірункаў дзейнасьці Рады БНР часоў Міколы Абрамчыка было наладжваньне і падтрыманьне сувязі з беларускім антысавецкім Супрацівам на Бацькаўшчыне. Укладальнікі двухтомніка не змаглі выявіць шмат інфармацыі пра гэта. Гэта пераважна абрыўкі інфармацыі. І толькі адзін дакумэнт, які цалкам прысьвечаны гэтай тэме — дэкрэт Міколы Абрамчыка ад 7 чэрвеня 1950 году (ён цалкам зьмешчаны ў разьдзеле "Дакумэнты").

У траўні 1953-га ўдзельнікі сэсіі Рады БНР ушаноўвалі памяць "раднага, кіраўніка партызанскага аддзелу, забітага на Бацькаўшчыне ў лютым б[ягучага] г[оду]". Укладальнікі кнігі палічылі, што гаворка ідзе пра Янку Філістовіча. Калі гэта так, цікава, як была атрыманая Радай БНР гэтая непраўдзівая вестка.

Цікавая рэакцыя Міколы Абрамчыка на артыкул "У службе "Чорнага Ката", які быў зьмешчаны ў газэце "Бацькаўшчына" 25 сакавіка 1950 году. Працытуем яго ліст да Аўгена Каханоўскага ад 12 траўня таго году:

*"Артыкул пра "Чорнага Ката" мяне не задаволіў. Выглядае ён ні то на палітычную правакацыю, ні то на скрайнюю наіўнасьць. "Бацькаўшчына" не ўчыніла ніякага зразумела праступства, бо перадрукавала ўжо апублікаванае, але паказала сваю наіўнасьць, падхватываючы, не прадумаўшы крытычна, такі артыкул.*

*Для фахоўца артыкул гэты скрайне наіўны, бо як-жа можна прыняць у сур'ёз, каб нейкі немец, папаўшы ў палон — меў адразу доступ і кантакт да шэфа штабу, а той* ***дэкансьпіраваў*** *яму (!) сваю кватэру, якую ён цяпер падае чуць не адрыс (асабняк у Вільні і г. д.). Гэта, безумоўна, сказкі для дзяцей, а для сур'ёзных людзей выглядае непаважна з нашага боку зьмяшчаць такія рэчы без агаворак.*

*З другога-ж боку — такое даверра (!) да немцаў, такія сымпа-*

*тыі да немцаў — на што гэта ўсё? І то ўжо другі і то цалкам аналягічны артыкул сваёй абсурдальнасьцю і гэрманафільства нашых партызанаў. Баюся, ці не інсьпіруюцца гэтыя “ўцекачы ад немцаў” бальшавікамі. Надта-ж на гэта падобнае”.*

Пасьля заканчэньня антысавецкае барацьбы беларуская эміграцыя, а дакладней асобныя арганізацыі і асобы, трымалі сувязь з асобнымі беларускімі дзеячамі, якія жылі ў Польшчы, БССР, Летуве. Ім перапраўлялі газэты, часопісы, кнігі, ад іх атрымлівалі зьвесткі пра жыцьцё беларусаў пад савецкай акупацыяй. У 1980 годзе Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі падрыхтавала для міжнароднай канфэрэнцыі ў Мадрыдзе мэмарыял пра дыскрымінацыю беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Факты былі атрыманыя з-за “железнай заслоны”. Гэты пратэст выклікаў негатыўную рэакцыю ня толькі ўладаў ПНР, але і польскіх эмігрантаў.

У 1981-м эмігрантамі зьбіраліся грошы, каб купіць ратагар і перапраўіць яго беларусам у Польшчу. На жаль, невядома, ці быў рэалізаваны гэты праект.

Выглядае, што існавала некалькі каналаў сувязі эміграцыі з беларускімі дзеячамі ў ПНР. Пра гэта крыху напісаў у сваіх успамінах гісторык Юры Туронак. Праз Польшчу эміграцыйныя выданьні траплялі ў БССР. Былі і іншыя варыянты распаўсюду, як непасрэдная высылка на пошце з Захаду (у гэтым выпадку савецкія спэцслужбы маглі лёгка перахапіць эміграцыйныя газэты) і рассылка ўнутры СССР (у гэтым выпадку эміграцыйная пэрыёдыка дастаўлялася дыпляматычнай поштай і пасьля ўжо адбываўся распаўсюд па пэўных адрасах).

Скразная тэма абедзьвюх кніг — лёс архіву БНР пасьля сьмерці М. Абрамчыка. Яго жонка Ніна так і не перадала калекцыю дакумэнтаў Радзе БНР, нягледзячы на ўсе намаганьні з боку апошняй. Яны, нібыта, захоўваліся ў адным з банкаў. Што ж было далей, невядома. Ёсьць толькі версіі: архіў купілі ці выкралі савецкія спецслужбы, ён загінуў ці дзесьці па-ранейшаму захоўваецца, жонка магла яго пахаваць у... магіле мужа. Не было ў Рады БНР сваёй службы бясьпекі, якая б магла вырашыць праблему з архівам ціха і хутка.

Янка Запруднік — адзін з нешматлікіх, хто бачыў частку архіву ў доме Ніны Абрамчык. Праз гады ў “Запісах” ён напісаў, што нічога цікавага там не было. Насамрэч, у тым чамадане, які паказалі Запрудніку, былі толькі малацікавыя дакумэнты, бо каштоўныя захоўваліся ў іншым месцы. Шкада, што эміграцыйны дасьледчык гэтага не зразумеў.

Як можна чакаць, Лявон Юрэвіч і Натальля Гардзіенка працягнуць працу над выданьнем “цаглінак” пра гісторыю Рады БНР. Наступным будзе перыяд кіраваньня Язэпа Сажыча (1982 — 1997). Прыгадваю яго прыезд у БССР у сакавіку 1993-га. Старшыня Рады БНР прысутнічаў на нейкім мітынгу на плошчы Незалежнасьці ў Менску, стаяў у натоўпе і плакаў... Але ў справе перадачы паўнамоцтваў Рады БНР ураду Беларусі ў Сажыча перамаглі не эмоцыі, а цьвярозы розум. Ён вырашыў, што гэта рабіць передчасна.

*Сяргей Ёрш*

# “ЗБРОЙНЫ ЧЫН З ЭЛЕМЭНТАМІ ПАРТЫЗАНКІ СУПРАЦЬ ЗАХОПНІЦКІХ БАЛЬШАВІЦКІХ СІЛАЎ”



З гутаркі журналіста Радыё Свабода Міхася Скоблы з гісторыкам Уладзімерам Ляхоўскім.*

svaboda.org

**— Уладзімер, спачатку давайце вызначымся з назвай. Найбольш папулярная, хадавая — Слуцкае паўстаньне. Вы зборнік дакумэнтаў назвалі — “Слуцкі збройны чын”. На эміграцыі зь лёгкай рукі Юркі Віцьбіча часам пісалі — Слуцкі фронт БНР. Дык які тэрмін тут найбольш падыходзіць?**

— Давайце разьбярэмся. Паўстаньне — гэта ваенная акцыя супраць дзейнай улады ці акупацыйнага рэжыму. На Случчыне на той час, калі пачалося паўстаньне, пакуль не было бальшавікоў, а палякі — сыходзілі і ўжо ня ўмешваліся ва ўнутраныя справы павету. Фронт — таксама не зусім тое. Фронт можна былоназіраць у Чачні ў 1990-я гады, там чачэнцы трымалі тэрыторыю. На Случчыне франтальнага супрацьстаяньня не было. Случакі дзейнічалі з нэўтральнай зоны, гэта былі партызанскія акцыі. Я лічу, што

больш адпаведная назва — Слуцкі збройны чын. Гэта збройны чын з элемэнтамі партызанкі супраць захопніцкіх бальшавіцкіх сілаў.

**— А чаму гэты збройны чын адбыўся менавіта на Случчыне? Там што, былі нейкія самыя спрыяльныя перадумовы?**

— Я прааналізаваў тагачасную сытуацыю ў розных рэгіёнах, ня толькі ў Беларусі, але і на Тамбоўшчыне, напрыклад, дзе паўставалі антыбальшавіцкія рухі, і прыйшоў да высновы, што жабракі не ваююць за свабоду. Слуцкі збройны чын — клясычны выпадак выступу гэтак

званых "кулацкіх элемэнтаў" — заможных беларускіх сялянаў, якія не хацелі аддаваць свой хлеб, фураж бальшавікам, не хацелі ісьці ў іхняе войска. Тады яшчэ працягвалася польска-савецкая вайна, праходзіла мабілізацыя. Чаму менавіта Случчына? Заходнія раёны Беларусі вельмі пацярпелі ад бежанства падчас Першай сусьветнай вайны. Ад 40 да 60 % беларускіх сялянаў, пераважна праваслаўных, былі эвакуяваныя ці гвалтоўна выселеныя зь іх тэрыторыі і расьцярушаныя па Расеі. Калі яны вярнуліся на свае гаспадаркі, то засталі іх разбуранымі. Такія людзі не могуць паўставаць. А Случчына толькі на 4,7 % апынулася ў бежанстве. Там падчас нямецкай і польскай акупацый беларуская сялянская гаспадарка прырастала. Польскія абшарнікі, разумеючы, што адбываецца на гэтых тэрыторыях, зьяжджалі са Случчыны, за бясцэнак прадавалі свае землі беларускім сялянам, у якіх былі грошы. Случчына на той час — самы заможны рэгіён Беларусі, які ня быў спустошаны вайной. Палякі пісалі пра Случчыну: "гэта беларуская Галяндыя па ўзроўні агранаміі".

**— Гэта зразумела, калі чалавек бярэцца за зброю, бароняючы сваю маёмасьць, у тым ліку зямельную. А наколькі Слуцкі збройны чын можна лічыць менавіта нацыянальным супраціўам?**

— У нас сацыяльны і нацыянальны чыньнікі не заўсёды супадаюць. Былі выпадкі, калі гэтыя чыньнікі супадалі, ішлі разам. Можна ўзгадаць Усебеларускі зьезд 1917 году. Слуцкі збройны чын — з той самай гісторыі.

У нас заўсёды так было: народ падымаўся, а эліта паказвала сваю палітычную няздольнасьць

На Случчыне пачынаючы з 1917 году ствараліся беларускія гурткі — "Папараць-кветка", "Зарніца", "Кутнёўская навуковая грамада" і г. д. Спачатку яны не выходзілі за межы сваёй чыннасьці — тэатральныя пастаноўкі, асьветніцкая дзейнасьць і г.д. Але ўжо падчас польска-савецкай вайны ствараюцца эканамічныя

падмуркі нацыянальнага руху: каапэратывы, спажывецкія таварыствы. Хто ў Слуцку ў 1920 годзе арганізаваў зьезд, які ўзяў курс на паўстаньне? Менавіта маладзёвыя актывісты названых гурткоў. І сацыяльная сытуацыя ў павеце наклалася на актыўнасьць нацыянальнай беларускай эліты, якая нараджалася. У нас заўсёды так было: народ падымаўся, а эліта паказвала сваю палітычную няздольнасьць. А Слуцкі збройны чын — гэта якраз той выпадак, калі сацыяльны чыньнік супаў з нацыянальным. І змаганьне адбывалася пад сьцягамі нацыянальнага вызваленьня.

**— Слуцкія змагары мелі ў тыле польскае войска, якое ня так даўно перад гэтым граміла і гнала бальшавіцкія дывізіі з-пад Варшавы. Як паводзілі сябе палякі на Случчыне?**

— Сёньня модны выраз — гібрыдная вайна, як ва Ўкраіне. Тое самае хацеў зрабіць і Пілсудзкі ў 1920 годзе.

**— Дык гэта Пілсудзкі прыдумаў такую вайну?**

— Можна сказаць — так. Давайце паглядзім на паход генэрала Жалігоўскага на Вільню. Усё выглядала так, быццам нараджэнцы гэтага краю пайшлі на Вільню, каб адбіць яе ў літоўцаў. Другі падобны выпадак — палескі паход генэрала Булак-Балаховіча, да якога палякі як быццам ня мелі дачыненьня. Яны падпісалі папярэдняе пагадненьне аб міры з бальшавікамі, і таму польскія часткі як бы ня ўдзельнічалі ў гэтых акцыях. Быў выкарыстаны гэтак званы “мясцовы элемэнт”, які, зразумела, фінансаваўся, узбройваўся палякамі. Але палякі рабілі выгляд, што яны ні пры чым. Рукамі случакоў яны хацелі дамагчыся далучэньня гэтых тэрыторый да Польшчы.

**— Вы тут самі сабе супярэчыце. Вашыя ж словы: “Слуцкі збройны чын адбываўся пад сьцягамі нацыянальнага вызваленьня”.**

— Такія былі пляны, але іх парушылі прыхільнікі Беларускай Народнай Рэспублікі, найперш беларускія эсэры, якія ўзялі паўстаньне ў свае рукі, перамогшы на выбарах у Слуцкую раду. Потым, праўда, была спроба змовы супраць іх. Але ўдалыя дзеяньні Васіля Русака, які меў сувязі ў контрвыведцы Слуцкай брыгады, пасьпелі заблякаваць тых людзей, якія хацелі павесьці паўстаньне па польскіх рэйках у саюзе з Булак-Балаховічам і ў выніку далучыць гэтыя тэрыторыі да Польшчы.

[...]

**— Сёлета была затрымная здымачная група, якая рабіла кліп пра Слуцкі збройны чын. Летась на Случчыне міліцыянты сарвалі паказ дакумэнтальных фільмаў пра паўстаньне.**



**Беларуская міліцыя — не 16-я бальшавіцкая армія, чаму ж яна працягвае змагацца са слуцкімі паўстанцамі?**

— Ва ўладных структурах ідзе пэўная ідэалягічная барацьба. Адны дазваляюць — другія забараняюць. Адзін зь фільмаў, забароненых да паказу на Случчыне, быў зьняты дзяржаўным тэлеканалам ОНТ. А людзей выгналі з клюбу, дырэктара звольнілі... Адна рука не разумее, што робіць другая. Мясцовыя ўлады перастрахоўваюцца. Аніякіх падставаў для забароны фільмаў не было.

**— У паэта Міхася Кавыля (яму неўзабаве споўніцца 99 гадоў) ёсьць радкі: «Скліча сход гаспадар зямлі, / там, дзе з воямі змоўкла зброя, / шугане ў вышыню абэліск / з двума словамі: “Слуцкім героям!”. Скульптар Міхась Інькоў зрабіў праект помніка слуцкім паўстанцам, які позна ці рана будзе ўсталяваны. Вызначце для яго месца.**

— Мне здаецца, найлепшае месца — каля будынку, дзе праходзіў Беларускі зьезд Случчыны, на якім і было прынятае рашэньне аб збройным выступе. Гэты дом належаў Эдварду Вайніловічу, там цяпер месьціцца краязнаўчы музэй. Удзельнікі Слуцкага збройнага чыну, безумоўна, заслугоўваюць нашай удзячнай памяці, іх імёнамі павінны быць названыя вуліцы ў нашых гарадах.

---

* **Уладзімер Ляхоўскі: У Слуцкім паўстаньні сацыяльны чыньнік супаў з нацыянальным // Радыё Свабода, 2014, 28 лістапада; http://www.svaboda.org/content/transcript/26714759.html**

# ГЭТА БЫЛІ НАШЫ ПАРТЫЗАНЫ-НАЦЫЯНАЛІСТЫ

Сёлета Радыё Свабода зрабіла матэрыял пра польскую Армію Краёву.* Перадрукоўваем адзін з камэнтароў да яго, які пакінуў

гарадзенец **Міхал**.

“Да сеньня сумяціца ў галовах людзей. Каталікі = палякі (????) Армія Краева = змагары (?????) Якія палякі, якія змагары? Мае продкі паходзяць з самай заходняй часткі Гарадзеншчыны і тыя падзеі ведаюць, бо іспытвалі іх на сябе саміх. Мне распавядаў мой дзед аб тых “партызанах” паваенных краевых, але ніколі не распавядаў аб іх пазітыўна. Альбо як факт, альбо ніяк. Ен безумоўна разумеў, што такі быў час, але пазітыў...

Мой бацька да сеньня (80 год чалавеку) да любых партызанаў і краевых, і чырвоных (асабліва да чырвоных) ставіцца няйначай як да БАНДЫТАЎ, якія толькі і рабілі што рабавалі, забівалі і даклады слалі сваім кіраўнікам. **Былі ў нас на вёсцы (як дзед казаў, што прыкладна да сярэдзіны 50-х) і тыя, якія сапраўды ваявалі супраць саветаў.** Аб тых людзях ён казаў стрымана прыязна. Хто яны былі — ен не казаў, але ад яго я ўпершыню пачуў, што мы ліцьвіны, а не якія там беларусы, і сьцяг наш бел-чырвона-белы (аб Пазьняку тады ніхто ня чуў, дарэчы). **З таго раблю сеньня вывад — то былі нашы нацыяналісты.**

[...]

Шкада што і ў гэты час на Беларусі пануе гістарычная цемра і ніхто не жадае з уладных колаў распавесьці, данесьці, ці прынамсі не замінаць праўдзе, якая б яна не была”.

---

**http://www.svaboda.org/content/pra-armiju-krajovu/25413265.html*

*Сяргей Сарока**

# СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ...

Іх былі жменькі...
Верныя дзеці старой Беларусі
Сьцяг свой з Пагоняй узьняўшы навенькі,
У сьмертным хаўрусе
Йшлі бараніці
Крывёй маладою дзедавы віці —
Вёскі, загоны,
Ніваў прагоны,
Гонейкі вузкі,
Народ гарапашны, Народ Беларускі
Прад чорнай навалай чужынства дзікога,
Што сунулась хмарай палямі, дарогай,
Каб край наш стаптаці і ярмы нам узьдзеці;
Каб нас разагнаці нягодна па сьвеце...
Іх былі жменькі:
Дзеці маленькі.
Стары дзядочкі,
Юнцы маладыя, хлапцы дагадочкі.
І гэтыя воі, бязстрашны шаленцы
Прашлі ўспамінаці Грунвальдаву славу,
Пабраўшы паленцы,
Ахоплены жарам,
Каханьня пажарам
Зямлі Ізяслава...
І целам ахвярным бы жніўнай парою,
Абняўшысь з зямлёю
Шалёныя жменькі
Услалі прасторы, ваколь напраменькі...
Ім гымны пяялі,
Хаўтурныя далі
І пожняў прасторы,
Скрываўлены зоры,
Звуглены разоры,
Стаптаны палеткі
Іх слаўнае сьмерці маўклівыя сьведкі...
Зьляглі маратонцы —

Байцы за свабоду
Радзімай старонцы,
Сказаўшы Народу,
Як трэба кахаці Айчыну і Волю,
Як трэба змагаці чужынства няволю...

---

*Сяргей Сарока (1902 — 1941) — дзяяч беларускага вызвольнага руху, юрыст, літаратар. Выпускнік Віленскай беларускай гімназіі і Віленскага ўнівэрсытэту. Верш “Слуцкае паўстаньне...” быў апублікаваны ў віленскім беларускім часопісе “Шлях моладзі” (1931, № 10(33), кастрычнік, б. 11-12).

# ГІМН БЕЛАРУСІ АД ЦІМОХА ВОСТРЫКАВА

20 гадоў таму дэсантнік з-за “жалезнай заслоны” Цімох Вострыкаў (1922 — 2007) апублікаваў у менскай газэце “Наша слова” (9 лістапада 1994-га) свой варыянт гімна Беларусі. Як відаць, з дапіскі аўтара, гэта быў не першы варыянт гімну. Ранейшы (ці ранейшыя) не быў надрукаваны.



## ЖЫВЕ ЛІТВА — БЕЛАРУСЬ!

Маці краіна — наша дзяржава,
Нас ты з’яднала дружбаю зноў.
Бела-чырвона-белы сьцяг славы
Велічна ўзняўся наноў.
    Мы, беларусы, колісь — літвіны
    Доўгім змагарным шляхам ішлі
    Выгнаць хапугаў, каб іх краіны,
    Даць дабрачыннасць жыцці.
Спадчыну нашу — дзедавы гоні
Ў бітвах за праўду Бог ратаваў.
Люд акрылёны роднай “Пагоняй”
Гонар і волю каваў.
    Нашых абшараў — цуда прыроды,
    Мы не дадзім іх ніколі на здзек.
    Дай жа нам, Божа, шчырае згоды,
    Моцнай дзяржавы вавек!



ЖЫВЕ ЛІТВА-БЕЛАРУСЬ!




## КАБ МАСКВА НЕ ЎБАЧЫЛА "БЕЛАРУСКІХ БАНДЭРАЎЦАЎ"

"Трэба думаць, што ніякае рэабілітацыі ніякіх сілаў, што дзейнічалі ў часе вайны ў Беларусі не на баку Крамля і Лубянкі, бліжэйшым часам мы не дачакаемся. Менавіта таму, каб Масква не разгледзела ў Беларусі "беларускіх бандэраўцаў".

*Сяргей Дубавец**

---

*Дубавец С. "Русские никогда не говорят правду" // Радыё Свабода, 2014, 4 ліпеня; http://www.svaboda.org/content/article/25445758.html

## ПРА КРЫЖ ЕЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ

Пошукі Беларускага Грааля — крыжа Еўфрасіньні Полацкай — у апошнія гады сьціўшыліся. Як вядома, ён зьнік падчас Другой сусьветнай вайны. Дакладней, не зьнік, а быў вывезены з Магілёва ў Маскву. Але ўсе спробы адшукаць яго ў Расеі былі безвыніковымі і зразумела чаму — ў такой справе, як вяртаньне каштоўнасьцяў,



неабходная палітычная воля кіраўніцтва. Таму праблему можна вырашыць толькі на найвышэйшым узроўні, у зручны час, калі "імпэрыя" зноў аслабее.

А пакуль той час яшчэ не надыйшоў, друкуем урывак з ліста беларускага пісьменьніка-эмігранта Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 18 чэрвеня 1964 году:

*"...у 1940 г., па дарозе зь Віцебску праз Магілёў у гістарычную вёску Лясную, наведаў* [Віцьбіч] *Магілёўскі абласны гістарычны музэй, але ў ягоным сакрэтным фондзе крыжу Еўфрасіньні - Прадславы не знайшоў"* (ЛЕТАПІС жыцьця беларускай эміграцыі (ЗША), 1984, №19, чэрвень).

Павароты ў справе пошуку крыжа могуць быць самымі нечаканымі. Але яго вяртаньне ў Беларусь, на наш погляд, перадчаснае. Пакінем яго будучыні.

# АРГАНІЗАЦЫЯ “НАША КРЫЎДА”

У пачатку 1930-х у Заходняй Беларусі існавала “беларуская тэрарыстычная арганізацыя”, якая мела назву “Наша крыўда”. У траўні 1933 году пра яе дзейнасьць пісаў камэндант польскай паліцыі ў Ашмянах. Нібыта, яе сябрамі былі былыя ўдзельнікі беларускіх вайсковых і партызанскіх аддзелаў, а кіраўніцтва знаходзілася ў Празе. Палякі лічылі, што “беларускія тэрарысты” мелі сувязь зь немцамі і ўкраінскімі нацыяналістамі з АУН ды рыхтаваліся ўзьняць паўстаньне з мэтай аднаўленьня незалежнай Беларусі. Дакумэнт пра “Нашу крыўду” знайшоў гісторык Юры Грыбоўскі.*

На жаль, няма інфармацыі, ці насамрэч існавала такая канспірацыйная структура, ці гэта была мітычная арганізацыя.

---

*Grzybowski J. Białorusini w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918-1945. — Warszawa, 2006, s.119-120.

# ПРОЗЬВІШЧА КСЯНДЗА ГАДЛЕЎСКАГА НЕ РАШЫЛІСЯ ЗГАДАЦЬ

7 чэрвеня 2014-га ў газэце *“СБ. Беларусь сегодня”* зьявіўся вялізны матэрыял пра Трасьцянец пад Менскам, месца масавых пахаваньняў ахвяраў нацызму. А ад сябе дадам — і ахвяраў савецкіх рэпрэсій, што замоўчваецца. Ёсьць у публікацыі і камэнтар каталіцкага мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.



“Вядома, што сярод ахвяраў Трасьцянца быў каталіцкі сьвятар з мінскага Чырвонага касьцёла.

Яго забралі проста ў Калядную ноч”, — цытуе словы Кандрусевіча згаданае выданьне. Вось і думай, ці гэта мітрапаліт замаўчаў прозьвішча ксяндза Гадлеўскага, ці рэдакцыя яго выкрасьліла.

М. Ш.

# ЯШЧЭ АДНА ПУБЛІКАЦЫЯ ПРА МАЛАДЗЁЖНУЮ ДЭМАНСТРАЦЫЮ Ў ГОРАДНІ ЛЕТА 1972 ГОДУ

Калісьці чытаў у “БР” падборку артыкулаў Сяргея Астраўцова з газэты ”Пагоня” пра тую малавядомую акцыю пратэсту.* І вось сярод старых выразак знайшоў яшчэ адну публікацыю, пра якую вы не згадалі. Аўтар усё той жа. Тэкст там наступны:

*Маецца на ўвазе публікацыя “40 гадоў моладзевага пратэсту ў Горадні”. Гл.: Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 1(12), б. 104-113. — “БР”.

“**Бойка на пляцы**

Успамінам гарадзенца Віталя Бурла пра лета 1972 года рэдакцыя “Пагоні” спрабуе зьліквідаваць прагалы ў гісторыі аднаго з першых пратэстаў моладзі супраць рэжыму камуністых.

Мне йшоў 17-ы [год], юнакі Горадні майго ўзросту захапляліся музыкай групы “Бітлз”. Вучыўся ў вучылішчы энэргетыкаў № 7 па вул. Леніна. Памятаю, як прыйшоў камсарг і паведаміў, што ў нашым горадзе”валасацікі” хочуць наладзіць нейкі фэст. Нам, маладому папаўненьню працоўнага класа, належыла супрацьдзейнічаць “антыдэмакратычным, буржуазным выпадам антысавецкіх элемэнтаў”. Як гэта зьдзейсьніць — камсарг не згадаў. Пасьля выступу камсарга ў большасьці маіх сябрукоў зьявілася жаданьне трапіць да гурту дэманстрантаў.

Хітрыкамі ўдалося дазнацца пра месца дэманстрацыі й час. Раніцой назначанага дня я з сябрамі быў на вакзале. Колькасьць удзельнікаў шэсьця павялічвалася кожны раз, як прыбываў цягнік. Удзельнікі акцыі пратэсту былі самага рознага ўзросту й чамусьці называлі Горадню “Чырвоным Парыжам”. Зазначу, што ўсе прыежжыя вялі сябе па-сяброўску, жартавалі. Казалі, што

калі дэманстрантам удасца зрабіць хоць 100 крокаў — нават гэта будзе перамога.

Раптам зьявіліся “чырвоныя” агітатары. Яны спрабавалі запалохаць некаторых маніфэстантаў прыкладна так: “Вы абылганы буржуаўнай прапагандай, якая толькі й жадае збэсьціць заваёвы першай у сьвеце дзяржавы рабочых і сялян”. На заклікі агітатараў чуўся сьмех, кпіны. Неўзабаве шыхт крануўся. Я і двое сябрукоў рушылі поруч з дэманстрантамі. Раз-пораз да калёны ўрываліся правакатары, спрабуючы выклікаць хоць якія непаразуменьня. Але калёна на правакацыі адказвала маўчаньнем ці сьмехам. Так прайшло хвілін 20-25. Маніфэстанты падыходзілі да Савецкага пляца, калі ім насустрач выйшлі чалавек 200-300, у асноўным моладзь. (Як высьветлілася потым, гэта быў камсамольскі актыў вобласьці). Усчалася напачатку сварка, а затым бойка. Камсамольцы прайгралі. На дапамогу ім кінуліся міліцыянты, потым хлопцы са “спэцназу”. Дэманстранты не здаваліся, не галасілі, а адказвалі на ўдары такім жа чынам. Бойка працягвалася хвілін 10-15. Савецкія, спэцыяльна падрыхтаваныя жаўнеры, перамаглі. Плакаты, штандары пакідалі на фурганеткі. Арыштаваных дэманстрантаў адвозілі на рэфрыжэратарах. На дзіва, многія дзяўчаты й хлопцы хоць і былі пабітыя, але сьмяяліся, сьпявалі, крычалі словы пратэсту. Увогуле, відовішча на гарадзенскім пляцы было не для людзей са слабымі нэрвамі.

Я пазнаёміўся праз колькі дзён з адным з дэманстрантаў — Анатолем з Варашылаўграду. Ён быў моцна пабіты й ня меў сродкаў, каб ад’ехаць дахаты. Мае бацькі прынялі Анатоля, падлекавалі, купілі білет.

Доўга яшчэ сакратары ад партыі камуністых і камсамольцаў падавалі гарадзенскую дэманстрацыю як выяву гнілога капіталізму. Але ў тых, хто быў сьведкам гэтай падзеі, такая прапаганда ня мела посьпеху. Шмат хто зразумеў, што за правы чалавека ў Савецкай дзяржаве ўжо ёсьць каму змагацца. Думаю, гарадзенская дэманстрацыя лета 1972 года была мэтанакіраваным пратэстам таталітарнаму рэжыму”.

Запісаў Г. Астроўскі

*Пагоня, 1994, № 19, 17-23 чэрвеня .*

У спэцархівах павінны былі захавацца кіназдымкі гэтай акцыі.

Яны ж ведалі пра яе, рыхтаваліся, дакумэнтавалі. Таму ў будучыні можа зьявіцца дакумэнтальны фільм. Толькі з гадамі будзе ўсё цяжэй адшукаць удзельнікаў і сьведкаў той падзеі.

В. С.

---

*Маецца на ўвазе публікацыя “40 гадоў моладзевага пратэсту ў Горадні”. Гл.: Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 1(12), б. 104-113. — “БР”.

# МІХАСЬ КОЖЫЧ

## (1924 — 2013)

Вестка пра сьмерць апошняга сябра Саюзу вызваленьня Беларусі Міхася Ігнатавіча Кожыча прыйшла з вялікім спазьненьнем — яго не стала яшчэ 23 кастрычніка 2013 года...



Міхась Кожыч нарадзіўся 22 сьнежня 1924-га на Наваградчыне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам, быў партызанскім сувязным. Летам 1944 году добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію, быў паранены ў баях у Польшчы. У Наваградак вярнуўся толькі ў канцы 1945-га, зноў стаў настаўнікам, адначасова вучыўся. Разам з сябрамі ў 1946 годзе заснаваў падпольную арганізацыю “Саюз вызваленьня Беларусі”. “Мы хацелі пабудаваць свабодную Беларусь”, — казаў Кожыч. У арганізацыі былі і франтавікі, і тыя, хто падчас вайны быў у беларускіх нацыянальных арганізацыях.

Правакатары зрабілі сваю чорную справу: у 1947-м прайшлі арышты 18 сябраў СВБ. Міхась Кожыч (у арганізацыі меў мянушку “Дубовы”) быў асуджаны на 10 гадоў зьняволеньня, быў у лягерах на поўначы Расеі, у Казахстане. Пасля вызваленьня працаваў будаўніком, быў выдатным спэцыялістам. Разам з сям’ёй вярнуўся з Казахстана ў Беларусь у 1960-х, жыў у Наваградку, ганарыўся кожным “сваім” будынкам.

У апошнія гады цяжка хварэў, быў прыкаваны да ложка. Ён быў

апошнім сябрам СВБ, іншыя пайшлі ў лепшы сьвет раней.
Сьветлая памяць!

# ЮРЫЙ ДУБОВІК

## (1924 — 2014)

5 сакавіка ня стала аднаго з апошніх жывых яшчэ афіцэраў Беларускай краёвай абароны.



Юрый Дубовік — ураджэнец Маладэчаншчыны, сын беларуса-балахоўца. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам, быў арганізатарам СБМ у Красным, а вясной 1944-га стаў асьветным афіцэрам БКА. Ён застаўся ў Беларусі, 10 ліпеня быў арыштаваны савецкімі карнымі органамі, а ў верасьні 1944 году асуджаны на 10 гадоў зьняволеньня. Вызваліўся ў 1954-м, вярнуўся на Бацькаўшчыну. Жыў у Салігорску, працаваў інжынерам-будаўніком, быў пад наглядам савецкіх спецслужбаў.




Юрый Дубовік пакінуў нам цудоўную кнігу ўспамінаў пад назвай “Дзеля Рэчы Паспалітай Беларусі” (Вільня, “Наша Будучыня”, 2006), якую яму дапамог выдаць сьв. пам. Міхась Чарняўскі. 24 ліпеня 2014-га яму споўнілася б 90 гадоў, не дажыў

некалькі месяцаў...

Свае лісты Дубовік нязьменна заканчваў двума літарамі: “Ж. Б.!” — Жыве Беларусь!

Сьветлая памяць!

## МІХАСЬ БЕЛЯМУК

### (1924 — 2014)

31 кастрычніка ў Кліўлендзе памёр вядомы дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША Міхась Белямук.

Ён нарадзіўся ў Камянецкім раёне. Падчас нямецкай акупацыі, у 1943-м, трапіў у беларускі батальён Яна Гелды ў Беластоку. З лета 1944 году жыў на чужыне — у Нарвегіі, Заходняй Нямеччыне, Злучаных Штатах. Нямала выпрабаваньняў Белямук сустрэў на сваім шляху, пра іх ён напісаў у кнізе ўспамінаў “Свайго лёсу не мінеш” (Вільня, 2006).

У ЗША ён быў актывістам шматлікіх беларускіх грамадзкіх арганізацый. Здараліся канфлікты, у тым ліку ў царкоўна-рэлігійным жыцьці (у парафіях Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы), пра якія Міхась Белямук напісаў успаміны. З 1991 году ён выдаваў часапіс “Полацак”, які здолеў згуртаваць аўтараў з эміграцыі і Беларусі, стаў адметным выданьнем, яго чыталі, цытавалі на Бацькаўшчыне.

У пачатку 1990-х Белямук прыяжджаў у Беларусь, стаў ганаровым сябрам Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Ён быў аўтарам шматлікіх артыкулаў у галіне археалогіі, нумізматыкі, гісторыі.

Сьветлая памяць!

## ЯЎГЕН СІДАРОВІЧ

### (1928 — 2014)

3 сьнежня 2014 году ў Паставах памёр беларускі патрыёт Яўген Сідаровіч. Ён быў удзельнікам канспірацыйнага Саюзу Беларускіх Патрыётаў 1945-1947 гадоў, быў асуджаны на 10 гадоў канцляге-



раў. На ўсё жыцьцё застаўся адданы беларускім незалежніцкім ідэалам.

Як піша сайт westki.info, на сёньняшні дзень “засталося жывых пяцёра сябраў Саюза беларускіх патрыётаў. Антон і Алеся Фурсы жывуць у Паставах, Леў і Марыя Бялевічы ў Полацку, Мікола Конан — у мястэчку Лужкі Шаркоўшчынскага раёна”. Калісьці сябры СБП дамовіліся, што на іх магільных помніках будуць напісаныя словы “Хай сьняцца сны пра Беларусь”. Гэтыя словы будуць і на надмагільлі Яўгена Сідаровіча*.

Сьветлая памяць!

*Шыталь К. Памёр Яўген Сідаровіч, беларускі патрыёт, вязень сталінскіх лагераў // 2014, 7 сьнежня; http://westki.info/artykuly/17358/pamyor-yaugen-sidarovich-belaruski-patryyot-vyazen-stalinskih-lagerau

Фота: westki.info

# ХАЦЕЛІ ЯК ЛЕПШ, А АТРЫМАЛАСЯ ЯК ЗАЎСЁДЫ?

На Дзень Волі-2014 у Менску група моладзі выйшла зь вялікім банэрам “Малады Фронт. Героі не паміраюць”. На ім было пяць партрэтаў: Булак-Балаховіча, Сьцяпана Бандэры, Міхала Вітушкі, Рамана Шухэвіча і Вінцэнта Гадлеўскага. Такіх розных людзей нейкія актывісты бяздумна аб’ядналі (ня хочацца думаць, што мэтай была правакацыя) на адным банэры.

Няведаньне сваёй гісторыі — гэта бяда, ад якой беларусы ня могуць пазбавіцца на працягу стагодзьдзяў.




Фота: Еўрарадыё

# У КРУПСКІМ РАЁНЕ ПАМЯТАЮЦЬ ПРА АТАМАНА МОНІЧА

23 траўня 2014 году споўнілася 90 гадоў з дня забойства савецкімі спецслужбамі Юркі (Ягора) Моніча, беларускага антыбальшавіцкага атамана. Здарылася гэта ў Крупскім раёне, у лесе паміж вёскамі Радзіца і Малыя Жаберычы. Лес той мясцовыя жыхары называюць “Монічаў Лес”.



Як піша ў Facebook краязнаўца Андрэй Аляхновіч, там, “пачынаючы з другой паловы 1920-х і па 1974-ы, каханка Юркі Моніча з вёскі Радзіца (якая так і не стварыла сваёй сям’і), штогод, на Радаўніцу, насыпала яго “магілу” і выкладала на ёй крыж, а побач, на елцы выразала яшчэ адзін...”. Месца гэтае ўдалося адшукаць.




Фота: Facebook

# У ЛІДЗЕ ЗЬЯВІЛІСЯ МЭМАРЫЯЛЬНЫЯ ШЫЛЬДЫ Ў ПАМЯЦЬ ПРА ЗАГІНУЛЫХ МІЛІЦЫЯНТАЎ

Іх усталявалі на будынку мясцовага аддзела ўнутраных спраў 10 верасьня 2014-га. На ўрачыстасьці прысутнічаў кіраўнік МУС **Ігар Шуневіч**. Ён сказаў знакавыя словы: "Усе традыцыі, якія мы сьвята свята шануем і трымаемся, яны нарадзіліся тады, у тыя часы. І мы часьцяком спраўджваем свае дзеяньні з тымі падзеямі, якія зьдзяйсьнялі нашыя вэтэраны. Тыя, хто цяпер жыве, і тыя, якіх няма. І суадносім сёньняшнюю службу з тым часам".

На першай мэмарыяльная шыльдзе, побач з прозьвішчамі загінулых, па-расейску напісаныя наступныя словы: *"Вечная памяць супрацоўнікам Лідзкага аддзела міліцыі, якія паляглі ў барацьбе з ворагамі нашай радзімы ў 1944 — 1947 гг. [...] Гонар і слава ўдзельнікам барацьбы з нацыяналістычным бандытызмам і сьветлая памяць пра ўсіх, што палеглі ад рук бандытаў".*

На іншай мэмарыяльнай шыльдзе чытаем:

*"У будынку Лідзкага аддзела міліцыі ў 1944-47 гг. месьціўся штаб МУС БССР па арганізацыі барацьбы з нацыяналістычным бандытызмам, які тэрарызаваў насельніцтва заходніх раёнаў і*



*рабіў замах на тэрытарыяльную цэласнасьць рэспублікі.*

*За пазначаны час супрацоўнікі міліцыі і чэкісты, воіны ўнутраных войскаў, рэалізуючы меры штабу, прадэманстраваўшы мужнасьць, гераізм і сапраўдную ахвярнасьць, пры падтрымцы грамадзкасьці ліквідавалі асноўныя бандыцкія фармаваньні і садзейнічалі аднаўленьню правапарадку ў краіне".*

Як кажуць, ёсьць над чым паразважаць. Відавочна, аўтар тэксту пастараўся яго выканаць з улікам рэалій нашага часу.

Варта адзначыць, што на ўрачыстасьці ў Лідзе прысутнічаў былы міністр унутраных спраў БССР **Віктар Піскароў**. Ён адзін з нямногіх *на тым баку*, хто рэгулярна ў прэсе згадвае пра паваенны "палітычны бандытызм" і вялікія страты сярод міліцыянтаў. І на гэты раз ён выказаўся перад журналістамі: *"Бандыцкія фармаваньні былі шматлікія, гэта было больш за 300 бандаў, якія аб'ядноўвалі больш за 30 тысяч бандытыў. Добра арганізаваных, добра ўзброеных. Паляглі сотні супрацоўнікаў міліцыі, воінаў унутраных войскаў".*

# БЕЛАРУСЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ЗДАВАЦЬ РАРЫТЭТНУЮ ЗБРОЮ



У траўні 2014-га жыхар Гродна прынёс у міліцыю кулямёт Дзегцярова. Зброя была схаваная ў хляве яго памерлага дзядулі ў адной з вёсак Шчучынскага раёну. Экспэрты прыйшлі да высновы, што зброя ў добрым стане. Разам з кулямётам захоўваліся 185 набояў.

На жаль у адкрытым доступе няма статыстычнай інфармацыі па здадзенай/канфіскаванай зброі ў паваенны час у Беларусі. Яна дапамагла б уявіць патэнцыял антысавецкага Супраціву — частка сялянства захоўвала зброю, каб у час вайны Захаду з СССР змагацца супраць камуністычных уладаў.

## У “БЕЛОРУССКОЙ ВОЕННОЙ ГАЗЕТЕ” З’ЯВІЎСЯ АРТЫКУЛ ПРА “ЧОРНАГА КАТА”

*“Белорусская военная газета” (“Во славу Родины”)* 13 лістапада 2014-га надрукавала артыкул пра Радыё Свабода, у якім згадала пра пасьляваеннае беларускае Супраціўленьне*. Уладзімір Кажэўнікаў, вядомы сваімі “выкрывальніцкімі” артыкуламі, піша:

*“...в Белоруссии... действовала подпольная антисоветская организация националистов “Черный кот”, она же Белорусская освободительная армия (БОА). Возникнув во время Великой Отечественной войны, БОА, обеспеченная деньгами, оборудованием для радиосвязи, вооружением, медикаментами, фальшивыми документами, действовала вплоть до конца 1950-х годов.*

*...Отряды “Черного кота” подчинялись главному штабу, который нелегально размещался под освобожденной от гитлеровцев Варшавой. Командовал организацией майор Белорусской краевой обороны Михаил Витушко.*

*...Боевики “Черного кота” сосредоточились на антибольшевистской борьбе. Не только занимались диверсионной деятельностью на железной дороге. Выпускали подпольные издания, вели антисоветскую пропаганду. Они неоднократно захватывали белорусские местечки и даже целые города. В марте 1948 года около двухсот боевиков напали на Новогрудок, чтобы освободить арестованных участников организации”.*

Таксама Кажэўнікаў згадаў пра палявых камандзіраў Пятра Гаевіча, “Сыча” і Аўгена Жыхара, некаторыя акцыі іх партызанаў.

Публікацыя і падача ў ёй інфармацыі дзіўная. Асабліва цяпер,

калі ў расійскіх СМІ ўзьнялася істэрыя з нагоды, нібыта, “рэабілітацыі” Міхала Вітушкі цяперашнімі ўладамі Беларусі. Што не адпавядае сапраўднасьці.

---

**Кожевников В. Рупор холодной войны. 68 лет спустя // Белорусская военная газета, 2014, 13 лістапада, № 211; http://vsr.mil.by/2014/11/13/rupor-xolodnoj-vojny-68-let-spustya/*

## СУДЗЯЦЬ ЗА АРЫШТ І ЗАБОЙСТВА ПАРТЫЗАНСКАГА КАМАНДЗІРА

Восеньню 2014-га Каўнаскі акруговы суд пачаў разгляд справы аб забойстве аднаго з камандзіраў паваенных летувіскіх “лясных братоў” Адольфаса Раманаўскаса (“Ванагаса”). Былы супрацоўнік савецкіх карных органаў Станіслаў Дрэлінгас абвінавачваецца ў тым, што ў кастрычніку 1956 году ўдзельнічаў у аперацыі па затрыманьні Раманаўскаса і яго жонкі Бірутэ Мажэйкайтэ (“Ванды”).



Вядома, што партызанскага камандзіра трымалі ў турме ў Вільні, жорстка катавалі. У верасьні 1957-га Вярхоўны суд ЛССР прысудзіў Раманаўскаса да сьмяротнага пакараньня. 29 лістапада 1957 году ён быў расстраляны ў

Вільні. Бірутэ Мажэйкайтэ атрымала 8 гадоў зьняволеньня (пасьля адбыцьця пакараньня вярнулася ў Летуву). Іх дачка Аўксуцэ Раманаўскене-Скакаўскене стала чальцом летувіскага Сейму.

Каўнаскі акруговы суд разглядае яшчэ адну справу аб арышце і забойстве Адольфаса Раманаўскаса. Па ёй праходзяць Ільля Вераб’ёў і Ядвіга Купрэнене. Сьцьвярджаецца, што яны дапамагалі распрацоўваць плян па захопе партызанскага камандзіра.

Адзначым, што Адольфас Раманаўскас (1918 — 1957) быў лейтэнантам летувіскага войска. У антысавецкім супраціўленьні ўдзельнічаў ад 1940 году. Быў камандзірам атрада, у 1947-1948 гг. ачольваў партызанскую акругу “Дайнава”, у 1949-1952 гг. камандаваў партызанскім рухам у паўднёвай Летуве, рэдагаваў падпольны друк. У 1952-м аддаў загад аб спыненьні ўзброенай барацьбы, знаходзіўся на нелегальным становішчы. Пасьпеў напісаць успаміны. Месца пахаваньня невядомае.

Фота: lt.wikipedia.org

## ПАМЁР АПОШНІ З КІРАЎНІЦТВА АНТЫНАЦЫСЦКАГА СУПРАЦІВУ Ў ФРАНЦЫІ

Рабера Шамбейрона не стала ў апошнія дні сьнежня 2014-га. Яму было 99 гадоў. Падчас нямецкай акупацыі Францыі Шамбейрон уваходзіў у склад Нацыянальнай рады Супраціву. У паваенны час ён быў дэпутататм Нацыянальнага сходу Францыі, дэпутатам Еўрапейскага парлямэнту.

Фота: flickr



# АДДЗЕЛ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАК

Гэтае фота знайшлося ў калекцыі паштовак Беларускага інстытута навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. У камэнтары да яго адзначаецца: “Паштоўка “Аддзел сёстраў вогнішча”. Час і месца выданьня невядомыя”*.




Наколькі вядома, аддзел скаўтак пад назвай “Сёстры вогнішча” існаваў у Віленскай беларускай гімназіі ў 1926-1929 гадах. Такім чынам, прыблізны час і месца, дзе было зроблена фота, нам вядомыя. Шкада, што пакуль не ўдалося ідэнтыфікаваць дзяўчат і іх кіраўнічак.

---

*Паштоўка “Аддзел сёстраў вогнішча” // http://kamunikat.org/bek/pasztouki.html#did206

